# ВІЦЕБСКІЯ КУРАПАТЫ

Кніга ўспамінаў
відавочцаў “сталінскіх” расстрэлаў у ваколіцах Віцебска,
а таксама іх сваякоў і нашчадкаў

Віцебск
2021г.

Кніга ўспамінаў відавочцаў “сталінскіх” расстрэлаў у ваколіцах Віцебска, а таксама іх сваякоў і нашчадкаў

2021г.
72 ст. з фотаздымкамі

У кнігу ўключаны ўспаміны жыхароў вёсак Паляі, Хайсы, Дрыколле, Лужасна і інш, сабраныя віцебскімі ўдзельнікамі клуба гісторыі і даўніны “Узгор’е” ў 1989-90 гг. і краязнаўцам Янам Дзяржаўцавым у 2014-2020 гг.

# УСТУП

Аповеды людзей, сабраныя пад гэтай вокладкай, уяўляюць сабой выключна цікавы дакументальны матэрыял. Да цяперашняга часу месцы “сталінскіх” расстрэлаў у Беларусі застаюцца таямніцай, адзінай афіцыйнай пазнакай месцаў загубы людзей падчас сталінскага тэрору з’яўляюцца назвы гарадоў.

“Калі ў якасці месца расстрэлу быў пазначаны Віцебск, гэта мог быць Цёплы лес”, – кажа Барыс Леганькоў, чый аповед уключаны ў гэтую кнігу. У кнізе смаленскага гісторыка Мікалая Ількевіча “Фальсификация следствия органами госбезопасности в 1937-1938 гг. Методы и приёмы. Документы. Палачи и их жертвы”, якая выйшла ў Смаленску ў 2013г. прыгадваюцца яшчэ два “расстрэльныя” месцы пад Віцебскам. Гэта «...14 км от г. Витебска по Смоленскому шоссе от дороги влево на 1500 м в лесу» и «...на 25 км от г. Витебска по Городокскому шоссе от дороги вправо на 3 км в лесу». Першае са згаданых месцаў – гэта лясны масіў паміж вёскамі Паляі і Вароны (варта ўлічваць тое, што адлік улева ў 1930-я гады вёўся ад старой шашы смаленскага накірунку. Сучасная траса Р21 праходзіць значна бліжэй да месца, дзе, па шматлікіх сведчаннях мясцовых жыхароў, у гады сталінскага тэрору расстрэльвалі людзей. Пра другое месца, згаданае ў афіцыйных дакументах, знойдзеных Мікалаем Ількевічам, сёння не вядома нічога. Тэрытарыяльна яно знаходзіцца з правага боку ад дарогі на Гарадок у раёне вёскі Доўжа.

У 2014г. сапраўднай сенсацыяй сталі страшныя знаходкі каля вёсак Хайсы і Дрыколле Віцебскага раёна. На паверхні зямлі апынуліся чалавечыя косткі, верагодна, выкінутыя з зямлі “чорнымі капальнікамі”. Старажылы распавялі журналістам жахлівыя рэчы: як высветлілася, у бліжэйшых вёсках даўно было вядома пра “сталінскія” расстрэлы ў гэтых мясцінах. Некалі вяскоўцы нават звярталіся да ўладаў, каб правесці раскопкі ды пахаваць забітых па-людзку. Аднак іх ініцыятыву не падтрымалі. І месцы расстрэлаў каля вёскі Хайсы, як і каля вёскі Паляі ды ва ўрочышчы Цёплы лес, дагэтуль застаюцца не даследаванымі. Ушанаваннем памяці бязвінна загінулых займаюцца неабыякавыя людзі, якія спадзяюцца, што ўсё ж такі наступяць тыя часы, калі грамадскасць даведаецца праўду пра ахвяраў сталінізму і іхных катаў.

# ПАЛЯІ (Віцебскі раён)



*Адкрыццё мемарыяла 5 лістапада 1989г.*

У 1980-я гады, калі ў прэсе пачалі ўздымаць тэму сталінскага тэрору, а людзі перасталі баяцца гаварыць пра месцы масавых расстрэлаў, стала вядома пра першыя "Віцебскія Курапаты" – узлесак непадалёк ад вёскі Паляі (6 км ад Віцебска, узбоч аўтадарогі Р-21 Віцебск-Лёзна). Пра тое, што ў ваколіцах вёскі расстрэльвалі людзей, ад сваёй сваячкі Зінаіды Аляксандраўны Цярошкінай даведаўся жыхар Віцебску Якаў Рыжык. Пра пачутае ён распавёў удзельнікам клуба аматараў гісторыі і культуры "Узгор'е". Яны апыталі мясцовых жыхароў, якія яшчэ памяталі тыя падзеі. І было вырашана ўсталяваць мемарыяльны крыж у тым месцы, якое паказалі вясковыя старажылы.

Першы крыж быў пастаўлены ў Паляях 5 лістапада 1989г. У той дзень прайшла першая грамадзянская паніхіда, сабраліся жыхары вёскі Паляі, школьнікі, старшыня мясцовага сельсавету. Прыйшлі і жыхары суседніх вёсак, жанчыны плакалі, расказвалі пра рэпрэсаваных сваякоў. З тае пары віцебскія актывісты штогод збіраюцца тут на Дзяды, каб ушанаваць памяць бязвінных ахвяраў.

З часам на месцы расстрэлу паўстаў самаробны мемарыял, які ўжо таксама мае сваю гісторыю. Першы крыж быў знішчаны невядомымі вандаламі, такі самы лёс напаткаў і яшчэ некалькі крыжоў, усталяваных у 90-я гады.

У 2013г. старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Партыі БНФ Канстанцін Смолікаў прапанаваў уласную канцэпцыю мемарыяла: на "расстрэльным месцы" з'явіліся 5 драўляных крыжоў чырвонага колеру. Апрача іх, на ўзлеску каля Паляёў усталяваны і два жалезныя крыжы, адзін з іх – вышынёй каля 5-ці метраў. На ім зроблены надпіс "Ахвярам таталітарнага рэжыму". Канстанціна Смолікава выклікалі ў суд і аштрафавалі за самавольнае ўсталяванне крыжоў у лесе. Паводле рашэння суду, яго абавязалі ліквідаваць крыжы. Ён не пагадзіўся, і мемарыял застаўся некранутым.



*Канстанцін Смолікаў*

Добраўпарадкаваннем самаробнага мемарыяла займаюцца віцебскія актывісты і аматары гісторыі. Штогод на Дзяды сюды прыходзяць людзі, каб ушанаваць памяць загінулых, у тым ліку мясцовыя жыхары. Аповеды пра трагічныя падзеі ў лесе каля вёскі Паляі перадаюцца з пакалення ў пакаленне.



*Мемарыял каля вёскі Паляі*

Увосень 2020 г. каля самаробнага мемарыяла быў усталяваны інфармацыйны стэнд пра падзеі сталінскага тэрору, падчас якога пацярпелі і жыхары найбліжэйшых вёсак – Паляі, Цярэшкі, Красоўшчына і гд. Віцебскія краязнаўцы і проста неабыякавыя людзі неаднаразова звярталіся да мясцовых уладаў, каб надаць гэтым мясцінам мемарыяльны статус. Аднак гэта не зроблена і дагэтуль. Тут ніколі не праводзіліся раскопкі альбо іншыя даследаванні.

## Якаў Рыжык: Жыхары Паляёў паказалі, дзе адбываліся расстрэлы




*Якаў Рыжык*

У 1980-я гады жыхар Віцебска Якаў Рыжык пачуў ад сваячкі аповед пра першыя “Віцебскія Курапаты”:

-- Мая сваячка Зінаіда Аляксандраўна Цярошкіна жыла ў вёсцы Паляі Віцебскага раёну. І аднойчы на нейкім сямейным сваце яна распавяла, што пад іхнай вёскай у 1930-я гады расстрэльвалі людзей. Яна нарадзілася ў 1927-м годзе, і бачыла гэта на ўласныя вочы, бо дзеці, як вядома, паўсюль пралезуць – нават туды, куды нельга... У сярэдзіне 1980-х гадоў у Віцебску дзейнічаў клуб аматараў гісторыі і культуры “Узгор’е”. Я распавёў кіраўніку клуба Ігару Цішкіну ды іншым удзельнікам, што пачуў пра Паляі. Было вырашана, што трэба ўшанаваць памяць расстраляных, як гэта рабілася ў Курапатах пад Мінскам. Мы апыталі мясцовых жыхароў, якія яшчэ памяталі тыя падзеі, нам паказалі прыкладнае месца расстрэлаў. Мы вырашылі, што паставім мемарыяльны крыж на ўзлеску, дзе ён будзе відаць з дарогі, і дзе будзе добры пад’езд.

Паводле Якава Рыжыка, усталяванне крыжа ператварылася ў значную грамадскую падзею:

– Крыж быў пастаўлены ў Паляях 5 лістапада 1989 году і асвечаны святаром Андрэем Несвятаевым. У імпрэзе бралі ўдзел жыхары вёскі Паляі, школьнікі, старшыня мясцовага сельсавету. Сабраліся і жыхары суседніх вёсак, жанчыны плакалі, расказвалі пра рэпрэсаваных сваякоў... А па знешнім перыметры стаялі дзядзькі ў чорных паліто, нешта занатоўвалі, вялі відэазапіс. Так што ўсё зафіксаванае, і для гісторыі дакументы гэтай падзеі недзе ёсць.

Успаміны жыхароў пра расстрэлы ў Паляях запісвалі віцебскія сябры Беларускага Народнага Фронту Сяргей Цярэнцьеў (ён жа зрабіў і першы крыж у памяць пра расстраляных), Алесь Шпунтоў, Міхась Паўлаў, Ігар Цішкін, Вольга і Міхаіл Шпакоўскія, журналіст Юрый Сцяпанаў. Сабраныя матэрыялы публікаваліся ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.

Аднак месца масавых расстрэлаў ля вёскі Паляі да гэтага часу не мае афіцыйнага статусу, тут ніколі не праводзіліся раскопкі альбо іншыя даследаванні, і памяць аб трагедыі захавалася толькі ва ўспамінах людзей.




## Галасы з мінулага

Напрыканцы 1980-х, калі стала вядомай  горкая праўда пра расстрэлы ў Курапатах пад Мінскам, тэма сталінскіх рэпрэсій зацікавіла многіх людзей

у Беларусі. Старажылы прыгадалі і пра “віцебскія Курапаты” – пра вёску Паляі Віцебскага раёна, каля якой адбываліся расстрэлы бязвінных людзей. Аматары гісторыі, краязнаўцы, сябры БНФ запісвалі ўспаміны мясцовых жыхароў пра падзеі 1937-38 гг. На той час яшчэ былі жывыя сведкі, якія бачылі народную трагедыю на ўласныя вочы або памяталі аповеды сваіх бацькоў…
Людзі, якія дзяліліся ўспамінамі, даўно сышлі ў нябыт, але з мінулага гучаць іхныя галасы.

Эмілія Іосіфаўна, 1911 г.н.:

– Гэта бацька распавядаў, што ён пасвіў коней і бачыў… Раней жа машын так шмат не было, яны ездзілі рэдка. А тут машына прайшла і спынілася насупраць возера. А далей не пайшла, і пачаліся стрэлы, стрэлы…Бацька казаў, што прывозілі з гораду людзей. І казаў, што бачыў магілы, але закапаныя. І што зверху нават дрэвы садзілі. Маскіравалі. Уночы стралялі, а ўдзень чалавек хадзіў і ахоўваў, каб ніхто там не хадзіў, ніхто нічога не ведаў. Стралялі такіх бедных людзей, як мой бацька. Мой бацька ў кузні працаваў, і яго арыштавалі, што трэба было рамантаваць санкі, усё такое, а ён не паспяваў каваць. Яго забралі. Каля году ён адсядзеў. Родны брат бацькі, той быў брыгадзір. У яго адзін бурт бульбы падмёрз, і яго забралі. Яго доўга, беднага, мучылі. Дзядзька сядзеў у сакрэтнай камеры, яго дапытвалі. А за што? За бурт той бульбы? Але потым адпусцілі.

Іван Паўлавіч, 1907 г.н.

— Чаму ж я не чуў? Чуў! Перад самай вайной вазілі людзей да возера туды і стралялі. Ноччу. Толькі па начах. І часта. І былі не магілы, а ямы выкапаныя, і кроў на дрэвах была.

Ганчарова Лідзія Іосіфаўна, 1913г.р.

-- Калі гэта было? У 1929 і ў 30-х гадах раскулачвалі людзей, якія не хацелі ісці ў калгас. А потым стралялі людзей. Мы нават не лічылі, колькі было стрэлаў. А потым мой муж пайшоў на возера, трохі не дайшоў, і бачыў, што ямы тым нехта вартаваў, каб не падыходзілі. Хадзіў чалавек са зброяй у скураной тужурцы, бліскучай. А калі машыны ехалі, то клалі дошкі на дарогу, каб следу не было, што машына ішла. Аднойчы мы пайшлі сена грэбсці, глядзім – зямля свежая, засыпана вялікая яма, а зверху кусты пасаджаныя. Арэшнік выкопвалі, елачкі, садзілі зверху. Мы хацелі праверыць,

ці глыбокая яма. Палкай спрабавалі. Было з паўметра.

Неназваная жанчына:

— Чалавек з нашай вёскі ішоў з рыбалкі і бачыў, што стаяць людзі ў лесе – рукі завязаныя ззаду і раты заткнутыя... Ён так спалохаўся, што прыйшоў увесь белы. І нічога нікому не казаў, ад сполаху. Толькі потым маці прызнаўся, і усе паступова даведаліся. Стралялі ў нас. І забралі Мальвінінага мужыка, Мацкевіча.

МАЦКЕВІЧ Антон Уладзіслававіч нарадзіўся ў 1908г. у в. Шашкоўшчына Віцебскага р-ну, беларус, з сялян, меў няскончаную пачатковую адукацыю, быў калгаснікам у к-се імя Мархлеўскага. Арыштаваны 29 ліпеня 1938г. Асуджаны 15 лістапада 1938г. «тройкай» як польскі шпіён, за а/с агітацыю паводле арт. 64, 68, 69, 71, 72 на 10 гадоў ППЛ у Каргапольлаг Архангельскай вобл. Яго жонка, Мацкевіч (дзявочае прозвішча Буевіч) Мальвіна Вікенцьеўна, памерла ў 2002 годзе.

Хашкоўскі Іван Антонавіч, 1904 г.н.

-- У 1937-м годзе стралялі "палякаў", так тады казалі. Па прозвішчах глядзелі. І мясцовых жыхароў забіралі. Стралялі на беразе возера, ноччу. А магілы былі замаскіраваныя.

Кляўцоў Уладзімір Дзям'янавіч, 1925 г.н.

-- У 1937-м годзе я ўжо хадзіў у школу, памятаю. І як толькі вечар, чуваць, што страляюць – як за Паляі выйсці, то першы паварот у бок возера, налева. Адразу нічога не было, а потым бачым – ёлачкі маленькія пасаджаны. У мяне быў сябар, Шышкоў Пётр Мікалаевіч. Мы пайшлі ўдвох паглядзець. Бачым: яма вялікая, метраў 8 даўжынёй, і тры жардзіны тырчаць. Мы іх пацягнулі, зямлю трохі раскапалі, а там нежывыя людзі ляжаць. Хто ў ніжняй бялізне, хто ў верхнім адзенні. А за ёлкай стаіць вінтоўка. Пятро яе ўзяў і занёс дахаты. Тады мы расказалі, адкуль яна. Але ўсё расказваць баяліся, каб нас таксама не расстралялі. І баяліся туды хадзіць, каб не злавілі. А стралялі там кожны вечар, і было гэта пад восень, месяцы два.
І з нашай вёскі забралі чалавека, звалі яго Гінтоў Адась. Жыў у Паляях. Ён расстраляны. Гэта дакладна. Казалі так: хто перапісваўся з Польшчай, той вораг. А яшчэ былі Шляхта, не памятаю, як зваць. Абодвух узялі, бацьку і маці. Яны таксама былі палякі.

ГІНТОЎ Адам Браніслававіч нар. у 1901 у вёсцы Лісьі Ямы Віцебскага р-ну, паляк, з сялян, калгаснік у к-се імя Мархлеўскага. Арыштаваны 2 лістапада, асуджаны 9 лістапада 1937 г. пастановай НКВД СССР і Пракуратурай СССР як член ПАВ паводле арт. 64, 68, 70, 72, 76 да ВМП. Расстраляны 9 студзеня 1938г.

Прозвішча ШЛЯХТА сустракаецца ў спісе жыхароў вёскі Паляі за 1950 г. Гэта Альфрэд Пятровіч Шляхта, 1935 г. н., сірата. Верагодна, рэпрэсаваныя былі менавіта ягоныя бацькі. Паводле іншых звестак ад мясцовых жыхароў, былі рэпрэсаваны Петр ШЛЯХТА і Іосіф ШЛЯХТА. У вядомых на сёння спісах рэпрэсаваных ні адзін, ні другі не значацца.

## Анатоль Ходзькін: Увесь ельнік, каторы тут, вырас на касцях



*Анатоль Ходзькін*

67-гадовы жыхар вёскі Паляі Ходзькін Анатоль Леанідавіч, з якім мы прыехалі на месца забойстваў рэпрэсаваных сталінскім рэжымам грамадзянаў, распавёў, што даведаўся пра тое ад свайго дзеда па бацькавай лініі Рыгора:

– Даведаўся з дзедаўскага расповеду. Дзед – удзельнік першай сусветнай. Меў чатыры георгіеўскія крыжы. Афіцэры яму нават чэсць аддавалі. Перад вайной усіх хутаран перасялілі ў вёску. А ў гэтае месца вазілі на расстрэл. Гэта 37 – 38 год. Дзед распавядаў, што тут заўжды было ачапленне. Нікога не падпускалі. Расстрэльвалі, сцягвалі ў ямы. На месцы расстрэлу салдаты цягалі елкі з дзёрнам, закладвалі, каб нічога не было бачна. Тады дзед яшчэ быў у сіле, гадоў пад сорак яму было. Яны з вёскі хадзілі сюды кругам. Праз ачапленне не пускалі. Можна было прайсці берагам возера.

Возера каля вёскі Паляі называецца Берніцкім. На беразе здаўна мясціўся піянерскі летнік, а цяпер – праваслаўны летнік “Дружба”. Таму мясцовыя называюць возера па-свойму, удакладняе Анатоль Ходзькін:

– Берніцкае, ці як яго ўсе называюць Піянерскае. Адсюль яны заходзілі, глядзелі. Дзед распавядаў, што пасля гэтых расстрэлаў яны прыходзілі. Ён жа не адзін хадзіў, аднаму страшна, жудасна. Дык, казаў, ельнік шавяліўся. Раненыя былі, а іх жыўцом закапвалі. Дзёран на іх клалі – і ўсё. Вось так гэта рабілі. Нашы. Плошча пад пахаваннямі, відаць, гектараў дзесяць. Гэта ад рэчкі метраў пяцьдзясят і ад возера метраў пяцьдзясят. Увесь ельнік, каторы тут, яго ўжо колькі выразалі, увесь вырас на касцях.

## Станіслаў Старыковіч: месцы расстрэлаў мне паказаў бацька

Жыхар вёскі Паляі Станіслаў Старыковіч з дзяцінства ведаў, што непадалёк, каля Берніцкага возера, у 1930-я гады праводзіліся “сталінскія расстрэлы”:

— Бацьку майго звалі Старыковіч Станіслаў Антонавіч. Я 1932 году нараджэння, і сам такога не памятаю, але бацька распавядаў, як сустрэўся ў лесе з тым, хто ахоўваў месца расстрэлаў. Ён працаваў лесніком, часта хадзіў на паляванне, і браў з сабой сабаку. Аднойчы ў лесе сустрэў незнаёмцаў, якія пазвалі яго да сябе і сказалі, што з сабакам тут хадзіць нельга, бо ў гэтым месцы закапаныя людзі. Ці гэта былі ахоўнікі, ці яны чакалі новую “партыю” асуджаных да смерці, бацька не ведаў. Але заўжды казаў, што гэта было яшчэ да вайны, у часы Сталіна.



*Станіслаў Старыковіч*

Пазней Станіслаў Старыковіч таксама хадзіў з бацькам на паляванне. І бачыў у лесе характэрныя адзнакі: пагоркі, падобныя да магіл. І малады ельнік на горцы. Раней там раслі суніцы, і вяскоўцы хадзілі на гару ў ягады. Але пасля расстрэлаў на свежых магілах пасадзілі елкі, працягвае Станіслаў Старыковіч:

-- Елкі былі зусім маладзенькія, на маіх вачах яны выраслі – ствалы сталі ў кулак таўшчынёй. Потым іх трохі высеклі, бо працягнулі высакавальтную лінію. У 1990-я там паставілі крыж, але трохі не на тым месцы, дзе былі расстрэлы. Прыязжалі ў вёску людзі, распытвалі, і мой стрыечны брат паказаў месца расстрэлаў. Але прыблізна, трэба было метраў на 200-300 вышэй, бліжэй да Берніцкага возера.

Пра расстрэлы за вёскай Паляі ведаюць многія вяскоўцы, у тым ліку Васіль Самаросенка:

– Я нарадзіўся ў Паляях у 1942 годзе. З дзяцінства чуў ад старэйшых, што людзей расстрэльвалі каля возера. Казалі пра гэта і мае суседзі Аляксандр Старавойтаў і Якаў Дарожкін (1898 г.н.). Распавядалі, што чулі стрэлы,

крыкі нават. Прычым на расстрэлы праз вёску не вазілі, а везлі па дарозе, як ехаць на Вароны, і налева. Гісторыя гэтыя мне давялося чуць у 1960-я гады.



*Васіль Самаросенка*

## Пётр Каваленка: З вёскі, дзе жылі латышы, забралі ўсіх дарослых мужчын

Пётр Фёдаравіч Каваленка пачынае свой аповед так:

-- Побач з маімі бацькамі жыла старэнькая жанчына. Прозвішча яе была Азоліна. Гэтак мы, больш на беларускі манер, яе прозвішча вымаўлялі. Верагодна, што прозвішча гэта было латыскае, магло напраўдзе гучаць як Азаліне альбо Азолінш. Прынамсі, каля вёскі Вароны раней было некалькі вёсак, дзе жылі латышы. Было вядома, што яны пасяліліся там яшчэ да рэвалюцыі. Яны так ратаваліся ад беззямелля ў Латвіі. Тут яны куплялі самыя танныя землі, і атрымлівалі на іх някепскія ўраджаі. Бо людзі гэта былі дужа працавітыя і дбайныя.

Паводле словаў маці Пятра Фёдаравіча, у трыццатыя гады гэтых людзей

напаткалі рэпрэсіі. З вёскі, дзе жылі латышы, забралі ўсіх дарослых мужчын. У родную вёску яны ўжо не вярнуліся. І толькі аднаго не забралі. Пра яго было вядома, што ён быў п'яніца і жыў бедна. Пётр Фёдаравіч выказвае меркаванне, што яго, напэўна, палічылі "сацыяльна блізкім.



*Пётр Каваленка*

-- Аднойчы раніцай гэты адзіны ацалелы павяртаўся з Віцебску. Яго ўсяго трэсла, і ён распавёў, што, калі ён ішоў па лясной дарозе каля вёскі Вароны, яго абагналі машыны. А праехаўшы крыху далей, спыніліся... У вёсцы ведалі, што ў гэтым лесе страляюць па начах. Гэты мужчына досыць хутка зразумеў, што стаў выпадковым сведкам нечага таемнага, і ён схаваўся пад ялінаю. Далей ён пабачыў, як машыны асвятлялі паляну ў лесе, і чуў стрэлы, і крыкі людзей. Там былі ўжо падрыхтаваныя ямы, у якіх закопвалі забітых. Потым ачапленне знялі, машыны з'ехалі. Мужчына дачакаўся раніцы і пайшоў да гэтых засыпаных зямлёй ям. І там ён знайшоў рукавіцу. Ён пазнаў гэтую рукавіцу – яе звязала ягоная сястра свайму мужу, якога забралі тады, калі забіралі ўсіх мужчын з іхнае вёскі. І ён прыйшоў да родных, каб сказаць, што іхны  сваяк не вернецца, бо яго расстралялі, і аддаў ім гэтую рукавіцу...

Гэтую гісторыю Пётр Фёдаравіч распавёў адмысловай камісіі па рэпрэсіях,

якая была створана ў абкаме КПСС з прыходам да ўлады Міхаіла Гарбачова. Як раз тады быў пастаўлены і крыж у Паляях. І тады ж прыязджалі і апытвалі згаданую вышэй суседку, якую звалі Вольга Азоліна.

Дакладна прыгадаць імя расстралянага гаспадара рукавіцы Петр Фёдаравіч не можа. Але прозвішча “Азолін” сустракаецца ў спісах рэпрэсаваных даволі часта. Людзі з такім прозвішчам жылі і ў ваколіцах Віцебска і Лёзна, дзе было шмат латышскіх паселішчаў. Прыкладам, да вышэйшай меры пакарання быў асуджаны латыш Азолін Іван Кірылавіч з вёскі Матушова Лёзненскага раёну – адзін з тых, хто трапіў пад рэпрэсіі па нацыянальнай прыкмеце.



*Першы самаробны крыж каля вёскі Паляі*

# ХАЙСЫ (Віцебскі раён)

Пра тое, што ў лесе каля вёсак Хайсы і Дрыколле мясцовыя жыхары знаходзяць выкінутыя з зямлі чалавечыя парэшткі, сябар КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў даведаўся яшчэ ў пачатку 2000-х. Пра жахлівыя знаходкі яму распавёў жыхар вёскі Лужасна Іван Кудзінаў. У лістападзе 2014г. віцебскія журналісты і актывісты на свае вочы ўбачылі ў лесе чалавечыя косткі і чарапы. Старажылы пацвердзілі, што ў гэтых мясцінах у 1930-я гады расстрэльвалі людзей.



*Страшныя знаходкі каля Хайсоў*

14 лістапада 2014 года тут у першы раз ушанавалі памяць ахвяраў. У трох месцах, дзе былі самыя вялікія яміны з парэшткамі, былі ўсталяваныя крыжы. Адзін з іх — каля сімвалічнай магілы, дзе святар грэка-каталіцкай царквы Зміцер Грышан адслужыў паніхіду. Паколькі справы па забойствах людзей не маюць тэрміну даўнасці, віцебскія сябры КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў, Пётар Сарапеня, Алег Емяльянаў і Сяргей Каваленка падалі заявы ў абласную пракуратуру, Следчы камітэт і міліцыю, каб атрымаць афіцыйнае пацверджанне факта забойства ні ў чым не павінных грамадзянаў сталінскімі катамі.

Пасля гэтага звароту на месца загубы прыяззжалі прадстаўнікі ўпаўнаважаных структураў. Яны забралі частку парэшткаў на экспертызу, якую праводзілі ў Мінску. Экспертыза здолела вызначыць толькі адно: што гэтым парэшткам больш за 50 гадоў. А прычыну і даўніну смерці вызначыць нібыта немагчыма. І таму парэшткі, якія пабылі на экспертызе спачатку ў Віцебску, а потым у Менску, перадалі службам ЖКГ для пахавання. Дзе яны ўрэшце былі пахаваныя, дагэтуль не вядома.

Увосень 2015 году на месцы расстрэлаў пабываў адмысловы 52-гі пашуковы батальён, які займаецца перапахаваннямі ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Іншай структуры для працы з чалавечымі парэшткамі ў Беларусі няма. Актывістаў да месца раскопак не дапусцілі. Мазалаўскаму сельсавету было перададзена не менш як 40 цыратовых мяхоў з чалавечымі косткамі. Паводле прыблізных падлікаў, знойдзеныя парэшткі належаць 140 асобам. Але высветляць, што гэта былі за людзі, ніхто не стаў. А неўзабаве раённая газета "Голас Прыдзвіння" паведаміла, што парэшткі, знойдзеныя ў лесе пад Хайсамі і сабраныя байцамі 52-га пашуковага батальёна, перапахавалі як парэшткі ахвяраў вайны на брацкіх вайсковых могілках каля станцыі Лосвіда.

Увесну 2017 года мясцовы жыхар Юрый Садкоў паведаміў пра чалавечыя парэшткі, знойдзеныя ім на іншым участку лесу каля вёскі Хайсы. Гісторыя паўтарылася: парэшткі і фрагменты рэчаў трапілі на паверхню пасля "працы" так званых "чорных капальнікаў". Мясцовыя ўлады зноўку выклікалі 52-гі пашуковы батальён. Вайсковы археолаг Вадзім Тамілін забараніў фатаграфаваць раскопы. Прадстаўнік Акадэміі навук Алег Іоў, які таксама прыехаў вывучаць пахаванне, заявіў, што ўбачанае тут вельмі нагадвае яму знаходкі ў мінскіх Курапатах. Сабраныя пашукавікамі парэшткі былі пахаваныя на могілках у вёсцы Мазалава, на крыжы ўсталявалі шыльду, надпіс на якой не нясе аніякага сэнсу: "Тут пахаваны парэшткі 302 асобаў, знойдзеных у ваколіцах вёскі Хайсы". Актывісты ініцыятывы ўсталявалі побач другі крыж, з надпісам на шыльдзе: «Ахвярам сталінскага тэрору, расстраляным у 1937-38 гг. каля вёскі Хайсы і перапахаваным тут у 2018г.».

Дзякуючы намаганням неабыякавых людзей, у лесе каля вёскі Хайсы паўстаў самаробны мемарыял, які нагадвае пра забойствы бязвінных людзей у часы сталінскага тэрору.



*Мемарыял у памяць ахвяраў “сталінскага” тэрору*

## Сяргей Кудзінаў: Нам казалі, што чарапы ў лесе – “не ваша справа”

Жыхар вёскі Лужасна Сяргей Кудзінаў распавёў, што яшчэ ў 1980-я гады натрапляў у лесе на чалавечыя парэшткі:

– Мы з братам Іванам хадзілі ў грыбы каля вёскі Хайсы. Падняліся на горку і ўбачылі ямы ў зямлі – мабыць, нехта рабіў раскопкі. Вакол былі раскіданы чалавечыя чарапы, косткі, рэшткі адзення, абутку. Калі вярнуліся дахаты, то распавялі пра гэта нашай маці. Яна родам з гэтых мясцінаў – з вёскі Баравыя, якая некалі была каля Хайсоў. І вось яна расказала пачутае ад старажылаў, што там да Вялікай Айчыннай вайны праводзіліся расстрэлы. Даведалася яна пра гэта ад свайго суседа. Ён казаў, што аднойчы пайшоў у лес і пачуў там нейкія хлапкі, як стрэлы. Яму стала цікава, ён падышоў бліжэй і нарваўся на ачапленне. Людзі ў форме сказалі яму: “Дзед, чаго ты тут ходзіш? Ідзі адсюль і больш не з’яўляйся, калі не хочаш непрыемнасцяў”. Але ён не супакоіўся, і аднойчы цішком прабраўся ў тыя мясціны. Убачыў там прысыпаныя зямлёй ямы.

Мясцовыя старажылы ведалі пра расстрэлы ў гэтых мясцінах. Але часы былі такія, што пра гэта стараліся не згадваць. Але пазней, падчас так званай “Перабудовы”, людзі ўсё-ткі вырашылі даведацца праўду, працягвае Сяргей Кудзінаў:

— Людзі ўжо адчулі сябе вальнейшымі, і мой брат звяртаўся ў сельсавет, у царкву і нават у газету – была тады “шматтыражка” завода “Эвістар”. Там у яго быў знаёмы карэспандэнт, і брат яго пазваў, каб сфатаграфаваць косткі ў лесе. Тады ўжо было вядома пра Курапаты, і пра іншыя месцы “сталінскіх” расстрэлаў. Але справа на тым і скончылася. Яму сказалі: “Дзякуй за інфармацыю, мы разбярэмся. А далей – не ваша справа”.



*Сяргей Кудзінаў*

Іван Кудзінаў памёр у 2012 годзе. Ягоны брат Сяргей паказаў чалавечыя парэшткі віцебскім актывістам і журналістам. Вандроўка ў “расстрэльны” лес каля вёсак Хайсы і Дрыколле адбылася 12 жніўня 2014г., і ў той самы дзень незалежныя беларускія СМІ апублікавалі першую інфармацыю пра “віцебскія Курапаты”.

## Анатоль Савіцкі: Упершыню аб расстрэлах даведаўся ад дзеда Лявона ў пяцідзясятыя гады…

Анатоль Генадзьевіч Савіцкі, жыхар вёскі Хайсы, даведаўся пра месцы расстрэлаў беларускіх грамадзян, рэпрэсаваных падчас сталінскага тэрору, ад бацькоў і знаёмых:

– Я нарадзіўся ў 1937-м годзе, і сам нічога пра расстрэлы памятаць не магу. Упершыню даведаўся пра гэта ад дзеда Лявона ў 1950-я гады. Тады ў кожнага вяскоўца была карова. Пасвілі кароў, вялі розныя размовы. Неяк дзед Лявон распавёў, што да вайны ноччу чуў стрэлыў лесе.



*Анатоль Савіцкі*

Дзед Лявон паказаў, як знайсці месца расстрэлаў. Анатоль Савіцкі гэта запомніў:

-Калі, не даходзячы метраў сто да могілак у Хайсах, павярнуць направа ў бок лесу, то праз кіламетр – паўтара дарога прывядзе туды, дзе расстрэльвалі. Дзед прыкладна паказаў нам месца, дзе гэта было. Мы з яго ўнукам Эдзікам Баравым былі яшчэ малымі. Гадоў па дванаццаць нам было,

ну, не больш за пятнаццаць. Аднойчы мы з Эдзікам пайшлі на гэтае месца. Мы – хлопцы, нам цікава. Знайшлі мы гэта месца па ўпадзінам. Месца там пясчанае. Я ўзяў палку, стаў капаць, пясочак лёгка капаецца. Эдзік таксама капаў. І раптам мне трапіўся чаравік. Спачатку не бачны быў, а потым выкапаў, паглядзеў -- жаночы чаравік. Нам стала непрыемна, і мы з Эдзікам уцяклі з гэтага месца. Далей капаць не сталі… Распавядалі пра тыя падзеі і іншыя мясцовыя жыхары. Хтосьці нешта бачыў, хтосьці чуў па начах стрэлы. Усё гэта насцярожвала. Але тыя старыя даўно ўжо памерлі. Ужо нікога не засталося, хто б мог сказаць нешта больш канкрэтнае. Людзі ведалі, што расстрэльвалі, чуткі хадзілі. Факты – самі ямы, упадзіны. Яны пра нешта ж кажуць. Яны – не выдумкі нейкія.

## Васіль Дрындрожык: Сказалі, каб вас тут не было, а то пойдзеце ямы капаць



*Васіль Дрындрожык*

Пра расстрэлы людзей у 1937-38 гады ў лесе каля вёскі Хайсы распавёў і мясцовы жыхар Дрындрожык Васіль Емяльянавіч, 1929-га года нараджэння:

– Бацька мой, Емяльян Ануфрыевіч Дрындрожык, быў конюхам. Коней пас. У канцы вёскі, трошкі правей – лес. І там расстрэльвалі. Ён так гэта апісваў: “Прывезлі, пачалі страляць, а коні пачалі хрыпець. У мяне валасы на галаве дыбам. І ўсё”. Яшчэ памятаю, дзядок у суседнім доме жыў. Ён пойдзе ў лес, сукоў наламае, прысядзе і паліць. Падыходзяць вайскоўцы: “Што ты тут робіш? Ідзі адсюль! Каб цябе тут не было, а то пойдзеш ямы капаць!” Карпенка, здаецца, яго звалі. Я малы тады яшчэ быў.

Бацька Васіля Емяльянавіча не бачыў расстрэлаў, але чуў стрэлы ў лесе. Распавядаў, што гэта дакладна было да вайны, у 1937-38 гадах. Васіль Дрындрожык так апісвае месца, якое ведаюць усе мясцовыя жыхары:

– У лесе, там прагалы былі. Горачка там. Цяпер там усё зарасло, але я памятаю, калі ў грыбы хадзілі, то людзі казалі: “Вось ямы, ямы…”. Ад вёскі кіламетры паўтара. Вось поле аруць, а за полем лес. І там недалёка тое месца. Там раней праз чыгунку быў пераезд. Там брыгадзір жыў, чыгуначнікі жылі. Адтуль з шашы людзей завозілі, налева. Вяскоўцы казалі, што на месцах расстрэлаў у ямах, што праваліліся, нават жаночыя грабяні знаходзілі. Відаць, і жанчын стралялі тады. Потым яшчэ казалі, што ў Цёплым лесе таксама расстрэльвалі. Гэта каля Лужасна.

## Дзмітрый Ганчароў: Жонка пазнала расстралянага мужа па рукаве пінжака

Дзмітрый Сцяпанавіч Ганчароў нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Буева Віцебскага раена. З маленства ён далучыўся да сельскай працы -- улетку з сябрам Паўлам Борахавым яны пасвілі цялят. Давялося шукаць цялё, і тут убачылі, як расстрэльвалі людзей, распавёў Дзмітрый Сцяпанавіч:

-- Пасвілі цялят, увечары пералічылі – аднаго няма. Пайшлі шукаць у лес. Бачым: па дарозе прайшла машына. Як толькі зайшлі ў лес, чуем нейкую размову. Мы падумалі, што, можа, гэтыя людзі і скралі цялё, і ў машыну яго грузяць. А машына была “палутарка”, з закратаванымі вокнамі. І чуем хлапкі. А гэта стрэлы – не з вінтоўкі, а з пісталета. Нам стала цікава, падышлі бліжэй. Тут выходзяць два чалавекі, спыталіся, што мы тут робім. Сказалі, што цялёнка шукаем. Нас адтуль і прагналі.

Дзмітрый Сцяпанавіч кажа, што яны адразу сцямілі, што гэта былі расстр-

элы так званых “ворагаў народу”. Пра іх часта згадвалі старэйшыя вяскоўцы. Калі распавялі дарослым пра ўбачанае, то ім забаранілі ганяць цялят у той бок. Забараніў сам старшыня калгасу “Прызыў” Антон Рамашка. Праз некалькі месяцаў ён знік – таксама стаў ахвярай сталінскага тэрору.



*Дзмітрый Ганчароў*

І быў расстраляны ў тым самым Вераб’евым лесе, працягвае Дзмітрый Сцяпанавіч:

-- Перад пачаткам Вялікай Айчыннай вайны ў той лес хадзіць ужо не забаранялі. Раней там былі хутары, якія ссялілі ў вёску. І многія людзі хадзілі на месца сваёй былой гаспадаркі. Хадзіў і Антон Ерамееў. Ішоў праз лес, а там ямы, дзе хавалі расстраляных. І чамусці яму захацелася там капнуць нагой зямлю. Капнуў – і ўбачыў рукаў шэрага пінжака. Мабыць, нябожчыкаў неглыбока закопвалі. Такі пінжак якраз быў у нашага старшыні Рамашкі. Пайшоў да ягонай жонкі. І яна пайшла ў лес, і пазнала, што насамрэч ён. Ці перапахавала яго, дык я не ведаю. А потым пачалася вайна, і жонка з трыма дзецьмі кудысьці з’ехалі, і пасля ўжо сюды не вярнуліся.

Вёскі Буева зараз няма, з буйнейшых населеных пунктаў засталіся толькі Хайсы і Дрыколле. Мясцовыя жыхары дагэтуль з пакалення ў пакаленне перадаюць аповеды пра “сталінскія” расстрэлы ў бліжэйшым лесе.




*Крыж у памяць пра расстралянага  Антона Рамашку*

## Мікалай Шамшура: Гэтак растрэльвалі самых разумных...

Мікалай Васільевіч Шамшура нарадзіўся ў 1929 годзе непадалёк ад Хайсоў. Ад сваіх суседзяў ён чуў аповеды пра тое, што перад вайной у лес вазілі і растрэльвалі людзей, якіх тут жа, у лесе, і закопвалі.

-- Да вайны ў той лес нікога не пускалі. А ўжо пасля вайны ў тых мясцінах ужо было нічога не пазнаць. Немцы падчас вайны высеклі і вывезлі той лес, дзе адбываліся расстрэлы.

Ужо пасля вайны Мікалай Васільевіч працаваў трактарыстам і браў удзел у выкарчоўванні пнёў на тым полі, якое ўтварылася на месцы выразанага немцамі леса. Яго пазней узаралі і засеялі. Такі загад аддаў тагачасны старшыня мясцовага калгаса, якога звалі Прохар Мікалаевіч Саўчанка. Ён быў мясцовы, ураджэнец вёскі Саўчонкі. Плошча таго поля, дзе паводле аповядаў тутэйшага люду былі пахаваны растраляныя, складала каля пяці гектараў.

Мікалай Васільевіч прыгадвае тое, што пачуў ад суседзяў:

-- Падчас вайны гэтымі пахаваннямі цікавіліся немцы, і адзін з вяскоўцаў, Кірыл Азаравіч Азаронак, нават вадзіў іх да гэтых пахаванняў. Гэта было ў 1942 годзе, і ён сам потым распавядаў аднавяскоўцам пра гэта.




*Мемарыяльны крыж каля Хайсоў*

Жонка Мікалая Васільевіча прыгадвае аповеды мясцовых жыхароў пра тое, што прывозілі ахвяр адразу пасля заходу сонца, па дарозе праз чыгуначны пераезд у Хайсах. Машыны з ахвярамі ехалі ўздоўж сядзібы Пятрака Малашэнкі. Рабілася ўсё як мага цішэй, і нават саміх стрэлаў амаль не было чутно. Гаварылі нават, што раты у ахвяраў былі завязаныя. Прывезеных прымушалі саміх капаць сабе магілу, а потым ставілі адным шэрагам і стралялі. І яшчэ людзі казалі, што гэтак растрэльвалі самых разумных.

## Гісторыя Вольгі Данцыт і помнік расстраляным латышам

У 2014 і 2017 гадах у лесе каля вёсак Хайсы і Дрыколле знайшлі два вялікія невядомыя пахаванні. Пасля “працы” чорных капальнікаў на паверхні апынуліся чалавечыя парэшткі — косці і чарапы з кулявымі адтулінамі ў

патыліцах. Вяскоўцы-старажылы ўспамінаюць, што ў канцы 1930-х якраз тут адбываліся «сталінскія расстрэлы». Мясцовыя ўлады двойчы выклікалі 52-гі пошукавы батальён, каб эксгумаваць парэшткі і адсартаваць рэчы, якія таксама знаходзілі ў ямах-магілах. З адной такой знаходкі – жаночага грабеньчыка — і пачалася амаль дэтэктыўная гісторыя, якая пацвярджае, што ў гэтым лесе расстрэльвалі не “ахвяраў вайны”, як раней цвердзілі ў сельсавеце, а бязвінных людзей падчас сталінскага тэрору.



*Ян Дзяржаўцаў каля помніка расстраляным латышам*

Вайсковы археолаг Вадзім Тамілін паказаў знойдзены фрагмент жаночага грабеньчыка, на якім надрапана імя «Оля» і частка прозвішча меркаванай гаспадыні. Удзельнік грамадскай ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты» Андрэй Кешанюк правёў уласнае даследаванне:

— Прозвішча на грабеньчыку далёка не самае распаўсюджанае: відаць першую літару „Д“, потым „а“, потым „н“, за ёй — дзве вертыкальныя рыскі, як у „п“ або „ц“, а следам — „и“. Гэта апошняя літара, якая засталася на абламаным кавалачку. Я праверыў па спісах рэпрэсаваных, якія ёсць у Інтэрнэце. З усіх прозвішчаў, якія пачынаюцца з Дан-, потым нявызначаная літара, а за ёй „и“, несумненна вылучаецца адно: „Данцит“. Прычым у спісе рэпрэсаваных значыцца менавіта Вольга Данцыт, латышка, якая нарадзілася ў 1910 годзе ў вёсцы Матушова Лёзненскага раёну. Жыла ў Віцебску, працавала настаўніцай

у школе № 30 і была расстраляная 30 красавіка 1938 году нібыта за антысавецкую дзейнасць у складзе латышскай контррэвалюцыйнай арганізацыі.



*Андрэй Кешанюк*

Андрэй Кешанюк вызначыў, што прозвішча «Данцит» або «Данцыт» сустракаецца ў розных спісах рэпрэсаваных 7 разоў, і амаль усе гэтыя людзі паходзяць зь вёскі Матушова. Нехта з іх быў расстраляны, нехта сасланы... Андрэй Кешанюк адшукаў сучаснікаў з такімі самымі прозвішчамі ў сацыяльных сетках. Два чалавекі ўжо адгукнуліся і пацвердзілі: так, іхныя сваякі былі рэпрэсаваныя, кагосьці расстралялі, кагосьці саслалі на Поўнач. Каб адшукаць нашчадкаў рэпрэсаваных Данцытаў, удзельнікі ініцыятывы "Хайсы – віцебскія Курапаты" паехалі ў вёску Матушова — на радзіму імавернай уладальніцы грабеньчыка. Але на сённяшні дзень Данцытаў у вёсцы ўжо не засталося, сказала мясцовая жыхарка, Вера Пісарава:

— Апошняй была Ксенія Данцыт, яна працавала ў калгасе, памерла ў 1974 годзе. Дзяцей у яе не было, ужо ў сталым веку яна сышлася з Іванам Жаўлачэнкам. На мясцовых могілках яны пахаваныя побач, пад адным надмагільным помнікам. Тая хата, дзе яны жылі, цяпер стаіць пустая. А гэтае месца людзі дагэтуль называюць "сядзіба Данцыт".

Ксенія Данцыт была па бацьку Аляксандраўнай, як і расстраляная настаўні-

ца Вольга Данцыт. Ці былі яны сёстрамі, або мае месца простае супадзенне, ужо ніхто не скажа...

Вольга Данцыт, як і многія аднавяскоўцы з Матушова, стала ахвярай так званай "латышскай аперацыі", калі падчас сталінскага тэрора былі асуджаны па нацыянальнай прыкмеце каля 22-х тысяч чалавек, з іх больш за 16 тысяч былі расстраляны. У памяць пра настаўніцу латышскай школы ўдзельнікі ініцыятывы "Хайсы – віцебскія Курапаты" паставілі імянны крыж у лесе, побач з тым месцам, дзе быў знойдзены грабеньчык. З архіўных звестак удзельнікі ініцыятывы даведаліся прозвішчы яшчэ 62-х чалавек, расстраляных у адзін дзень з Вольгай Данцыт, і паводле таго самага абвінавачання — за нібыта дзейнасць у «латышскай контррэвалюцыйнай арганізацыі». Верагодна, гэтыя людзі таксама былі забітыя ў лесе каля вёскі Хайсы. Іх імёны напісаны на помніку, які грамадскія актывісты ўсталявалі ў лесе ў 2019 годзе.

## Аляксей Нікіцін: Мы бачылі, як варушылася зямля на свежых магілах



*Аляксей Нікіцін*

Жыхары вёсак Хайсы і Дрыколле Віцебскага раёна добра ведаюць пра "рас-

стрэльныя” мясціны ў бліжэйшым лесе. Аповеды пра расстрэлы падчас сталінскага тэрору перадаюцца з пакалення ў пакаленне.  Аляксей Рыгоравіч Нікіцін пачуў іх ад дзеда:

— Я нарадзіўся ў Віцебску ў 1938 годзе. Калі пачалася вайна, да нас прыехаў дзядуля на кані, забраў мяне і маці да сябе ў вёску Дрыколле. У дзяцінстве я часта слухаў, як мой дзядуля, Хожанеў Рыгор Іванавіч, распавядаў пра расстрэлы ў лесе. Казаў, што да вайны вельмі часта чуў стрэлы па начах, выключна па начах. З дзедавай хаты яны былі чуваць. Распавядаў таксама, што хадзіў у лес паглядзець, што там такое. Адзін хадзіў, і са сваім сябрам братам жонкі Кірылам. Гэта лес, што з левага боку дарогі на Гарадок. Яны хадзілі туды і бачылі яму, засыпаную зямлёй. І зямля гэтая варушылася. Відаць, там былі раненыя, якіх кінулі паміраць.

Аляксей Нікіцін чуў ад дзеда, што гэта расстрэльвалі тых, каго прывозілі з віцебскай турмы. І ямы, у якія закапвалі расстраляных, былі доўгія і вузкія, як траншэі. Усяго іх было чатыры – так казаў дзядуля. Першы раз, пачуўшы стрэлы, яны з сябрам убачылі адну яму, праз колькі дзён зноўку стралялі ў лесе, і ямаў было ўжо дзве...Пасля вайны ён вырашыў агледзець тыя мясціны, працягвае Аляксей Нікіцін:

— Я пайшоў туды ў грыбы, і ўбачыў усё, як распавядаў мой дзед. Чатыры доўгія праваліны- ямы. Яны былі добра відаць, але іх яшчэ ніхто не раскапваў – не валяліся косткі панавокал, як у апошнія гады. І я магу дакладна сказаць, што стралялі не немцы: немцы, колькі стаялі ў Дрыколлі, ніводнага чалавека тут не застрэлілі, гэта я ўжо добра памятаю.

## Мікалай Разбаеў: Знішчалі невінаватых людзей

Мікалай Дзмітрыевіч Разбаеў нарадзіўся 1 студзеня 1941 года. Яму, як і многім іншым цяперашнім жыхарам вёскі Хайсы, пра сталінскія рэпрэсіі ў 30-ыя гады і расстрэлы ў бліжэйшым лесе распавядалі бацькі.
Ягоная маці Надзея Ўладзіміраўна, якая нарадзілася ў 1907 годзе, казала сыну пра стрэлы, якія чуліся з лесу па начах. Паводле яе словаў, расстрэлы адбываліся ў тым лесе, які знаходзіўся за чыгуначным пераездам, за казармай. Цяпер ні пераезда, ні казармы ўжо няма, але старажылы памятаюць, дзе яны былі.

— Людзі казалі, што так расстрэлівалі, фактычна, невінаватых людзей, — цытуе Мікалай Дзмітрыевіч словы сваёй маці.



*Мікалай Разбаеў*

Ягоны бацька, Дзмітрый Цімафеевіч, нарадзіўся ў 1905 годзе. Ад яго Мікалай Дзмітрыевіч таксама чуў пра расстрэлы. Бацькі таксама казалі і пра тое, што ў самым пачатку вайны ў лесе каля Хайсоў знішчалі вязняў віцебскай турмы.

З'язжаючы ў эвакуацыю, або баючыся, што вязні скарыстаюцца неразбярыхай і самавольна пакінуць турму, адміністрацыі карных установаў нярэдка прымалі рашэнне знішчыць зняволеных. Спачатку было прынята рашэнне эвакуіраваць кантынгент з турмаў на захадзе Беларусі глыбей на ўсход, але з 32 турмаў НКУС, якія функцыянавалі на 22 чэрвеня 1941г., удалося эвакуяваць толькі 14.

Пра лёсы перадваенных вязняў віцебскай турмы ніякіх дакументальных звестак у публічным доступе няма.

## Тамара Котава: Цяпер ужо гэтых людзей няма...

Тамара Дзмітрыеўна Котава нарадзілася ў 1951 годзе ў Чалябінскай воблас-

ці. Яе бацька Дзмітрый Карнілавіч, мясцовы, нарадзіўся ў вёсцы Дрыколле, маці нарадзілася ў Куйбышаве (цяпер Самара). Тамара Дзмітрыеўна чула пра растрэлы ў лесе каля Хайсоў ад сваіх суседзяў:

-- Цяпер ужо гэтых людзей няма, хто пра гэта распавядаў. Напрыклад, Валянціна Клёцкіна распавядала. Таццяна Цімафееўна Шамшура казала мне пра гэта. Таксама Елізавета Карпенка распавядала. Гаршкова Вера Антонаўна шмат чаго ведала. І не немцы там растрэльвалі, як кажуць некаторыя. Там растрэльвалі да вайны, нармальных людзей, якія тут жылі і працавалі. Пісалі ж раней такія лісты – даносы, і людзей расстрэльвалі. А вазілі па той дарозе, якая цяпер вуліца Лясная. Машыны шлі, шлі і шлі...



*Тамара Котава*

Паводле людскіх успамінаў, у лес на растрэлы вазілі людзей у 1936 – 1938 гадах. І названыя асобы, і іншыя людзі ведалі вельмі шмат. Але раней гэтым ніхто не цікавіўся, канстатуе Тамара Дзмітрыеўна, і пытанне сталінскіх рэпрэсій не ўздымалася, а пахаванні раскопваліся “чорнымі капальнікамі”.

## Віктар Гаголка: Людзей на расстрэл у 1930-ыя гады вазілі штоноч, і аж да самае вайны...

Віктар Ягоравіч Гаголка нарадзіўся ў вёсцы Дрыколле ў 1947 годзе. У гэтай жа вёсцы свой век пражылі і ягоныя бацькі, маці Ніна Пятроўна (дзявочае прозвішча Дзедушкіна) і бацька Ягор Яфімавіч. Маці Віктара Ягоравіча шмат распавядала яму пра падзеі даваеннага часу. Таксама ў 50-ыя – 60-ыя гады яму даводзілася чуць пра тыя часы і ад іншых аднасяльчанаў.
Паводле іхных словаў, у 1936, 1937 гадах машыны, якія называлі "чорнымі варанкамі", прывозілі ў гэтыя мясціны людзей, апранутых у цывільнае адзенне. Іх ахоўвалі міліцыянты. Потым гэтых людзей растрэльвалі.
Ад іншых людзей Віктару Ягоравічу даводзілася чуць, што так вазілі людзей у 30-ыя гады часта, амаль штоноч, і аж да самае вайны:

— Быў такі выпадак, калі тое, як везлі людзей на расстрэл, бачыў мой дзядзька Сямён Дзедушкін. Моладзь вярталася з танцаў ноччу. Ішлі праз лес. На дарозе пабачылі машыну, якая ехала ў іхным накірунку. Яны адышлі ў бок, і прапусцілі яе. Але потым вырашылі прасачыць за ёю.



*Віктар Гаголка*

Машына праз пэўны час спынілася. Моладзь назірала за ёю здалёк, сха-

ваўшыся ў лесе. З кузава машыны выйшлі прыблізна 12 ці 14 чалавек. Іх прымусілі капаць яму. Тут хлопцы вырашылі ўцякаць. Праз лес прыбеглі дахаты, распавялі бацькам. Было вырашана нікому пра гэта не казаць, бо іначай і за імі так прыедуць.

## Ігар Спірыдонаў: У пахаваннях шукалі каштоўнасці...

Ігар Уладзіміравіч Спірыдонаў пачуў пра растрэлы, што адбываліся ў лесе побач з Хайсамі, ад свае бабулі. Яе звалі Кацярына Лявонаўна Карпенка. Яна нарадзілася ў 1910 годзе, памерла ў 1998 годзе. Хутар, на якім жыла іхная сям'я, называўся Лявонішча, і знаходзіўся непадалёк, усяго кіламетра паўтара ад вёскі. Ігар Уладзіміравіч даведаўся ад бабулі, што да вайны па начах бацька Кацярыны Лявонаўны чуў стрэлы ў лесе:

— І аднойчы ўдзень ён пайшоў у лес паглядзець, адкуль даносіліся тыя стрэлы. І ў лесе ён пабачыў ямы, засыпаныя зямлёй, ля якіх два чалавекі займаліся тым, што прыкрывалі гэтыя ямы галінкамі, так, каб яны не так моцна кідаліся ў вочы. Бацька спытаў іх, што гэта яны там рабілі, але ў адказ гэтыя людзі пагналі яго адтуль.




*Указальнік у лесе каля Хайсоў*

Ігар Уладзіміравіч прыгадвае таксама, што ўжо ў канцы 90-ых ці пачатку 2000-ых, ён аднойчы збіраў у гэтым лесе грыбы. Тады ён зайшоў дастаткова далёка — не так, як звычайна. І там у глыбіні лесу ён пабачыў тыя ямы, некаторыя з іх ужо нават праваліліся. Болей за тое: некаторыя ямы былі са слядамі раскопаў. Выглядалі гэтыя раскопы так, нібыта ў гэтых пахаваннях нехта шукаў нейкія каштоўнасці. Панавокал гэтых раскопаў ляжалі косці ды адкапаныя чаравікі.
У лістападзе 2014г. віцебскія журналісты і актывісты на свае вочы ўбачылі ў лесе чалавечыя косткі і чарапы. Старажылы пацвердзілі, што ў гэтых мясцінах – у лесе каля вёскі Хайсы — у 1930-я гады расстрэльвалі людзей.

## Тамара Юркойць: Людзей закопвалі як скаціну

Тамара Іллінічна Юркойць, у дзявоцтве Сухадольская, нарадзілася ў 1949 годзе, на хутары паблізу вёскі Дрыколле. Сама жанчына не магла бачыць нічога, звязанага з расстрэламі ахвяраў сталінскага тэрору, але ёй шмат давялося пачуць пра гэта ад яе маці, Марыі Мітрафанаўны Карпенка, у шлюбе Сухадольскай, якая нарадзілася ў 1915 годзе. Яна больш за 70 гадоў пражыла тут, і пахаваная тут жа, у вёсцы Дрыколле.



*Тамара Юркойць*

Марыя Мітрафанаўна разам з сястрой часта прыгадвалі ў размовах, што побач з іх домам, пабудаваным яшчэ ў 1916 годзе, праходзіла дарога (цяпер гэта вуліца Лясная). Яны казалі, што, як толькі пачынала вечарэць, па гэтай дарозе ішлі машыны ў лес, і адтуль чуліся стрэлы. Стрэлы гучалі часта, і заўсёды пасля таго, як па дарозе ўздоўж сядзібы, якая належала цётцы Тамары Іллінічны, праедуць машыны. У самім лесе вяскоўцы бачылі сляды расстрэлаў, толькі гэта былі не магілы, а засыпаныя зямлёй ямы. Людзей закопвалі як скаціну, кажа спадарыня Тамара:

— І калі нават на могільніках скаціны выстаўляюцца адмысловыя шыльды, то ў гэтым лесе, дзе было закапана столькі людзей, і куды з самага маленства мы хадзілі і ў ягады, і ў грыбы, не было нічога! Ні шыльды, ніякай пазнакі не было, што тут пахаваны людзі. Былі толькі ямы, якія правальваліся, і яны паказвалі, дзе былі пахаванні. І пазней туды хадзілі, па гаспадарчых справах, напрыклад, пасвілі там кароў. Былі там праваленыя ямы, але ніколі ніхто не бачыў касцей. І тое, што цяпер там сталі знаходзіць косці, абазначае, што цяпер там сталі бываць нядобрыя людзі, і рабіць нядобрыя справы. І Бог іх за гэта пакарае.

Расстрэлы ў лесе адбываліся ў часы так званых “яжовых рукавіц”, гэта значыць, ў 1936 – 1939 гадах. Тамара Іллінічна прыгадвае аповеды маці і цёткі пра тое, што часы гэта былі няпростыя, і людзі паводзілі сябе часам нядобра. Моладзь, якая жыла ў гэтым наваколлі па хутарах, збіралася на танцы ў некага ў хаце. І бывала, што хлопцы сварыліся, нават біліся.

— А назаўтра нехта з іх мог напісаць цыдулку, і другога забіралі. Цыдулку тую не трэба было далёка насіць, заносілі проста ў сельсавет. І не было ніякага следства, разбору таго, што было ў той цыдулцы. І чалавек знікаў, і пра яго аж дагэтуль нічога не вядома.

Таксама Тамара Іллінічна прыгадала, што былі размовы і пра расстрэлы ў Цёплым лесе. Пра гэта, у прыватнасці, казала яе сваячка Лідзія Іванаўна Сухадольская.

## Мікалай Бародзіч: Каля Хайсоў перад вайной растрэльвалі шмат габрэяў

Мікалай Валянцінавіч Бародзіч узгадвае, што ягоная маці, якая нарадзілася ў 1929 годзе, казала пра тое, што ў лесе каля Хайсоў растрэльвалі габрэяў. Іх прывозілі з нейкага лагера, што знаходзіўся непадалёк. І было гэта менавіта да вайны. Мікалай Валянцінавіч перадае словы маці:

-- Людзей вазілі на растрэлы грузавымі машынамі. І растрэлы адбываліся на працягу двух гадоў, 1937-га і 1938-га.



*Мікалай Бародзіч*

Мікалай Валянцінавіч мяркуе, што маці магла пачуць пра гэтыя расстрэлы ад сваёй маці, Ціханенка Ганны Фёдараўны, 1914 года нараджэння. Сам Мікалай Валянцінавіч нарадзіўся ў 1958 годзе. Прыгадваючы словы сваёй маці і бабулі, ён катэгарычна адмаўляе сцверджанні, што расправы ў лесе каля Хайсоў чыніліся немцамі падчас акупацыі. Старажылы заўсёды падкрэсліваюць, што расстрэлы адбываліся менавта ў перадваенны час, і што катамі былі не нацысты-захопнікі, як у часе Другой Сусветнай вайны.

## Рыгор Іваноў: Было так, што асабліва рот не раскрывай...

Рыгор Сямёнавіч Іваноў, 1934 года нараджэння, даведаўся пра рэпрэсіі і растрэлы ад свайго бацькі, Сямёна Фаміча, які нарадзіўся ў 1910 годзе, і маці Марыі Мікітаўны, 1912 года нараджэння. Бацька казаў яму, што растрэлы адбываліся ў 1937-38 гадах каля вёскі Хайсы ў Вераб'ёвым лесе – гэта мясцовая назва ўчастка лесу, каля якой жыла сям'я Вераб'ёвых.
Рыгор Сямёнавіч прыгадвае:

– Раней тут была вёска Буёва. Пра расстрэлы ўсе ведалі. І ў нашай вёсцы таксама ведалі. Былі такія размовы, што расстрэльвалі ў Вераб'ёвым лесе. Бацька казаў, што стрэлы было чуваць часта. Успаміны пра гэта я чуў шмат ад каго. Неяк сышліся мужыкі на перакур, і сама сабою гаворка на гэта перайшла. Але не так і часта пра гэта гаварылі, бо было так, што асабліва рот не раскрывай...



*Рыгор Іваноў*

Успаміны старажылаў пра расстрэлы падчас сталінскага тэрору збіраў Ян Дзяржаўцаў, сябар КХП БНФ. Ён спрабаваў пераканаць мясцовыя ўлады ў неабходнасці ўшанаваць памяць ахвяраў. Аднак гэтыя спробы засталіся марнымі.

Для працы на невядомых пахаваннях у лесе работнікі Мазалаўскага сельскага савету двойчы выклікалі пашуковы батальён, які збіраў чалавечыя косткі. Ці праводзілася нейкая экспертыза парэштак, грамадскім актывістам не паведамляюць. У 2015-м годзе парэшткі прыблізна 140 асобаў былі пахаваныя на вайсковых могілках каля станцыі Лужасна пад выглядам ахвяраў Другой Сусветнай вайны. У 2018-м годзе адбылося яшчэ адно афіцыйнае перапахаванне знойдзеных парэштак на могілках у вёсцы Мазалава, дзе на крыжы ўсталявалі шыльду, надпіс на якой не нясе аніякага сэнсу: “Тут пахаваны парэшткі 302 асобаў, знойдзеных у ваколіцах вёскі Хайсы”.

## Аляксандр Разбаеў: Людзей расстрэльвалі за плотам

Аляксандр Васільевіч Разбаеў, які жыве ў вёсцы Хайсы, ведае пра растрэлы людзей сталінскімі катамі са словаў бацькоў.



*Аляксандр Разбаеў*

У прыватнасці, пра гэта распавядаў ягоны бацька, Васіль Дзмітрыевіч, 1928 года нараджэння. Аляксандр Васільевіч прыгадвае:

-- Бацька часта казаў пра так званыя “чорныя варанкі”, якія доўгі час вазілі людзей на агароджаную плотам тэрыторыю ў лесе.

У якасці арыенціра вяскоўцы, якія чулі пра “сталінскія” расстрэлы, прыгадваюць чыгуначны пераезд. Яго ўжо няма, але старажылы памятаюць тое месца. Якраз насупраць, дзе ўздоўж чыгункі ідзе шаша Віцебск-Гарадок, абсталявана аўтамабільная стаянка. Калі перайсці рэйкі ў гэтым месцы, то можна ўбачыць мемарыяльны крыж на ўзлеску, які нагадвае пра трагічныя падзеі сталінскага тэрору.

## Вячаслаў Буевіч: У бацькі валасы стаялі на галаве дыбам ад гэтага відовішча...

Вячаслаў Тамашавіч Буевіч упершыню даведаўся пра “сталінскія” расстрэлы ў лесе каля Хайсоў ад свайго бацькі, ва ўзросце дзесяці або адзінаццаці гадоў. Удвох з бацькам, ідучы з палявання, яны заходзілі на тое месца ў лесе, дзе расстрэльвалі людзей. Расстрэлы адбываліся да вайны. Бацька Вячаслава Тамашавіча бачыў іх на свае вочы. Схаваўшыся за дрэвам, ён назіраў за тым, што адбывалася ўначы на лясной паляне.



*Вячаслаў Буевіч*

Вячаслаў Тамашавіч прыгадвае словы бацькі:

-- Ён казаў, што валасы стаялі на галаве дыбам ад гэтага відовішча...

Да вайны бацька Вячаслава Тамашавіча працаваў лясным аб'ездчыкам, і пачуў ад некага, што нейкія бандыты крадуць лес. Ён распавядаў, як вырашыў адсачыць злодзеяў:

-- Глядзіць, машыны ідуць. Дзве машыны было. Спыніліся ў лесе, адтуль выйшлі людзі. Іх прымусілі выкапаць магілы, а потым расстралялі. Тых, каго не забілі адразу, дабівалі з пісталета. Потым на тым месцы, дзе іх закапалі, высоджвалі елкі...

Пасля вайны, калі бацька Вячаслава Тамашавіча паказваў яму месца расстрэлаў, пахаванні можна было пазнаць па тым, што там правалілася зямля і ўтварыліся ямы. Неяк ужо да самога Вячаслава Тамашавіча прыязджаў сваяк аднаго з забітых у тым лесе. Ён папрасіў паказаць месца, дзе адбываліся расстрэлы. Паводле ягоных словаў, там былі забітыя ягоны бацька і брат. Пра такія выпадкі, калі сваякі забітых шукалі месца іхнага пахавання, распавядалі і іншыя аднавяскоўцы.

## Ігар Духовіч: Нібыта ўзаралі могілкі

Ігар Віктаравіч Духовіч прыгадвае, што ў дзяцінстве і юнацтве шмат часу праводзіў у веласіпедных вандроўках, у кампаніі равеснікаў вывучаючы наваколлі Віцебска. Увесну 1974 года з імі адбылася падзея, якая засталася ў памяці Ігара Віктаравіча да гэтай пары. Аднойчы іхная дзіцячая кампанія на веласіпедах апынулася ў наваколлі Хайсоў. Па асноўнай дарозе ездзіць на веласіпедзе было небяспечна, бо дарога была вузкая, і на ёй было шмат машын. Гэтыя машыны ўвесь час да таго ж сігналілі, і дзецям ездзіць па асноўнай дарозе не падабалася. Ахвотней яны каталіся па прасёлкавых дарогах панавокал.

Вось і падчас гэтае вандроўкі дзеці на веласіпедах праехалі крыху далей за птушкафабрыку і з'ехалі на прасёлкавую дарогу. Мясціны былі незнаёмыя, але прыгожыя. Дарога была даволі пакручастая, і праз пэўны час яна ўпёрлася ў альховыя ды лазовыя кусты. Тут дзеці вырашылі ехаць назад, бо далей было брудна. Але ў гэты момант яны заўважылі раскіданыя на

полі каля кустоў косткі. Можна было зразумець па слядах трактара, што яны былі выкапаныя падчас узворвання зямлі. Косткі ляжалі ўздоўж края лесу, прыблізна праз кожныя 5-10 метраў. Сярод іх пазнаваліся характэрныя чалавечыя бярцовыя косткі. На пэўнай адлегласці хлопчыкі знайшлі і чалавечы чэрап.



*Ігар Духовіч*

Ігар Віктаравіч не хавае эмоцый:

-- Менавіта тое, што чалавечыя косткі і чэрап ляжалі проста на полі, у такім неадпаведным месцы і непаважным выглядзе, паспрыяла таму, што гэты выпадак так выразна адбіўся ў памяці.

Пазней Ігар Віктаравіч сутыкнуўся з падобным відовішчам ужо дарослым чалавекам, калі выпісаў дровы ў Лужаснянскім лясніцтве. Непадалёк ад таго ж месца, прайшоўшы праз альховыя ды лазовыя кусты далей па той самай дарозе, Ігар Віктаравіч зноў пабачыў раскіданыя чалавечыя косткі:

-- Цяпер, калі прайшло столькі гадоў, гэтае відовішча прыгадваецца як кашмарны сон. Нават самому часам ня верыцца, што бачыў такое. Нібыта ўзаралі могілкі.

## Аляксандр Максіменка: Знішчэнне крыжоў – гэта ганьба

Аляксандр Цярэнцьевіч Максіменка нарадзіўся ў 1937 годзе непадалёк ад так званай "Віцебска-Суражскай брамы", дзе цяпер знаходзіцца вядомы мемарыял у памяць прарыву беларускімі партызанамі лініі фронта. Гэта Запольскі сельсавет былога Суражскага раёна. У 1967 годзе Аляксандр Цярэнцьевіч уладкаваўся шафёрам на Віцебскую птушкафабрыку, якая знаходзіцца каля вёскі Хайсы. Ён жыў непадалёк ад таго месца, дзе ў 1930-я гады адбываліся расстрэлы, і дзе ў лесе былі закапаныя целы расстраляных. Пра тыя гады ён расказвае так:

-- Маё былое жытло -- гэта так званая "казарма" каля чыгункі. Дом быў падзелены надвое, на два гаспадары. У другой палове дома жыў Аляксандр Шунько, ен і распавядаў пра сталінскія рэпрэсіі -- казаў, што як толькі пачалася вайна, штодня прывозілі людзей на расстрэл у лес каля Хайсоў.



*Аляксандр Максіменка*

Іншыя вяскоўцы неаднаразова падкрэслівалі, што расстрэлы ў лесе каля Хайсоў адбываліся яшчэ і да Другой Сусветнай вайны, у 1937-38 гады. Аднак не выключана, што ў гэтыя мясціны, апрача рэпрэсаваных, маглі прывозіць на расстрэлы і вязняў Віцебскай турмы, якіх, верагодна, знішчылі у

чэрвені 1941-га года.

У лістападзе 2014г. віцебскія аматары гісторыі і краязнаўства ўсталявалі некалькі крыжоў у лесе, дзе былі знойдзены невядомыя пахаванні. Але праз нейкі час некалькі крыжоў зніклі. Аляксандр Цярэнцьевіч з абурэннем ставіцца да знікнення крыжоў, усталяваных грамадскімі актывістамі. Ён лічыць ганебным той факт, што афіцыйна не названыя тыя, хто нясе адказнасць за знішчэнне ні ў чым не павінных людзей, і што памяць ахвяраў на афіцыйным узроўні аніяк не ўшанаваная.

## Валянціна Нікіценка: Адразу пасля вайны ў лесе праваліліся ямы, а на іх былі косці

Валянціна Васільеўна Нікіценка нарадзілася ў 1937 годзе. Пра расстрэлы ў лесе каля вёскі Хайсы ёй распавядалі маці і бацька. Яны казалі, што машыны, якія называлі “чорны воран”, прывозілі на расстрэлы людзей. Везлі іх у канец вёскі і ў лес.



*Валянціна Нікіценка*

Валянціна Васільеўна памятае, што калі яна з іншымі дзецьмі пасля вайны

пасвіла кароў і коз у тых мясцінах, то бачыла ямы, а на іх зверху былі косці:

-- Лес, дзе адбываліся расстрэлы, быў спілаваны немцамі падчас Вялікай Айчыннай вайны. А пасля вайны мясцовыя калгасы выкарчавалі пні ад таго лесу і зрабілі на тым месцы поле. Ямы зраўнялі, а поле штогод узворваюць.

Некалькі год таму неабыякавыя людзі ўшанавалі памяць ахвяраў: на ўскрайку поля ўсталяваны самаробны мемарыял у памяць пра расстраляных у гэтых мясцінах бязвінных людзей.

## Аляксандр Пракапенка: "Вяскоўцы былі пэўныя, што расстрэльвалі не немцы"



*Аляксандр Пракапенка*

Аляксандр Аляксандравіч Пракапенка чуў пра рэпрэсіі і расстрэлы рэпрэсаваных ад свае маці, Алены Нікіфараўны, якая нарадзілася ў 1907 годзе і жыла ў вёсцы Дрыколле:

-- Па начах прывозілі людзей і расстрэльвалі ў лесе, казала маці. Было гэта

перад вайной, недзе ў 1937 і 1938 гадах. Многія, амаль усе ў вёсцы пра гэта ведалі".

Хто дакладна праводзіў расстрэлы, вяскоўцы не ведалі. Але ўпэнена сцвярджалі, што гэта былі не немцы, і што расстрэлы адбываліся яшчэ да пачатку Другой Сусветнай вайны. Тым не менш, пра чалавечыя парэшткі, знойдзеныя ў 2014г. у лесе каля вёсак Хайсы і Дрыколле, археолаг 52-га асобнага спецыялізаванага пошукавага батальёна Вадзім Тамілін выказаўся безапеляцыйна: «...Відавочная сувязь дадзенага пахавання з падзеямі Вялікай Айчыннай вайны». І афіцыйныя ўлады пахавалі іх на вайсковых могілках на станцыі Лужасна, назваўшы невядомых забітых людзей ахвярамі ваеннага часу.

## Любоў Цюленева: На месцы расстрэлаў на зямлі ляжалі адзенне і косткі



*Любоў Цюленева*

Любоў Уладзіміраўна Цюленева нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Дрыколле. Яна прыгадвае словы маці, Клёцкінай Валянціны Максімаўны, 1925

года нараджэння, якая распавядала ёй, што да вайны і ў вайну ў бліжэйшым лесе расстрэльвалі людзей:

-- І я сама, калі хадзіла раней у грыбы, бачыла ў лесе, там, дзе ўзгорак, што вядуцца нейкія раскопкі. На паверхні зямлі можна было пабачыць падэшвы ад абутку, боты, шапкі-вушанкі, а таксама чалавечыя косткі. Ды й зусім нядаўна там усё гэта можна было пабачыць.

Чалавечыя косткі мясцовыя жыхары знаходзілі ў лесе аж да 2017 года – пакуль не забілі трывогу ўдзельнікі грамадскай ініцыятывы "Хайсы – віцебскія Курапаты". Яны патрабавалі расследавання злачынстваў сталінізму, а таксама мемарыялізацыі гэых мясцін, дзе знайшлі свой апошні спачын нявінна забітыя людзі.

Мясцовыя ўлады выклікалі вайскоўцаў-пашукавікоў, якія сабралі чалавечыя парэшткі, але пахаваць іх адпаведным чынам не ўдалося. Па распараджэнні Віцебскага райвыканкама косткі перапахавалі ў двух месцах, частку з іх -- на вайсковых могілках як парэшткі ахвяраў Вялікай Айчыннай вайны, а другую частку – на грамадзянскіх могілках у аграгарадку Мазалава, таксама не пазначыўшы, што парэшткі належаць ахвярам сталінскіх рэпрэсій.

## Аляксандр Нікіценка: На расстрэлы ў Хайсы прывозілі цягнікамі

Пра расстрэлы каля вёскі Хайсы Аляксандр Нікіценка даведаўся ад свайго бацькі:

-- Я ведаю са словаў бацькі, Нікіценкі Уладзіміра Барысавіча, што там, дзе цяпер поле каля леса, расстрэльвалі людзей ў 1930-я гады. Сам ён гэтага не бачыў, але чуў ад старэйшых. Чуў ад суседкі, Пятровай Ганны Архіпаўны, яна прыходзіла да маёй маці, вельмі сталая жанчына, ёй амаль 100 гадоў было.

Ганна Архіпаўна распавядала суседзям, што ў 1930-я гады людзей на расстрэлы прывозілі цэлымі вагонамі. Цягнік спыняўся ля лесу, і людзей вялі ў гушчар, адкуль потым чуліся стрэлы. У 1930-я гады яна працавала на пераездзе, і магла чуць пра перавозку людзей на расстрэлы ад работнікаў чыгункі.



*Аляксандр Нікіценка*

## Валянціна Шагеева: Ахвяры самі капалі сабе магілы на гэтай паляне

Валянціна Пятроўна Шагеева нарадзілася ў 1934 годзе. Яна памятае, як гулі машыны, якімі ў канцы 30-ых вазілі ў лес каля вёскі Хайсы асуджаных на расстрэл. Чула яна і стрэлы, што даносіліся з лесу... Казалі пра расстрэлы ў лесе аднавяскоўцы, распавядала пра гэта і маці Валянціны Пятроўны. Жыхары вёскі ведалі пра паляну ў лесе з вялікай колькасцю ямаў, у якіх былі пахаваныя расстраляныя тады людзі. Хлопчыкі з вёскі бачылі, як прывезеныя на машынах ахвяры самі капалі сабе магілы на гэтай паляне.
І ў вайну, і пасля вайны некаторыя мясцовыя жыхары нават раскопвалі гэтыя пахаванні. Валянціну Пятроўну абуралі такія паводзіны:

-- Не ведаю, што яны шукалі. Можа, золата...Яшчэ "пад немцамі ў вёсцы жыў чалавек, па прозвішчы Шамшура, які падчас вайны вадзіў захопнікаў на месца пахаванняў расстраляных перад вайной людзей. Пасля вайны ён быў асуджаны на 10 гадоў, і памер у турме.

Што да папулярнай у мясцовых уладаў версіі, што ў мясцовым лесе могуць быць пахаваныя немцы, то Валянціна Пятроўна удакладняе, што нямецкія пахаванні заставаліся пасля вайны на мясцовых могілках. Ужо ў наш час падчас выкопвання магілы для чарговага пахавання кагосьці з вяскоўцаў на гэтых могілках быў знойдзены нямецкі салдацкі медальён. Праўда, медальён гэты ніхто не стаў адсылаць у Нямеччыну. Нямецкіх пахаванняў на мясцовых могілках было даволі шмат. Яны былі размешчаныя ўздоўж дарогі. На кожнай магіле былі крыжы, зробленыя з дошак, на якіх былі надпісы. Валянціна Пятроўна прыгадвае, што адна жанчына ўсё цягала з могілак гэтыя крыжы да сябе ў двор, каб паліць у печы. Цяпер ад гэтых магіл амаль нічога не засталося. На іх разбурэнне ніхто з мясцовых жыхароў не звяртаў увагі, бо гэта былі "варожыя" магілы.



*Валянціна Шагеева*

Валянціна Шагеева лічыць, што на той паляне, дзе дагэтуль застаюцца пахаванні нявінных ахвяраў, трэба было б паставіць сапраўдны помнік, а не самаробны мемарыял. На яе думку, нехта баіцца, што пахаванні будуць даследаваныя, і будуць знойдзеныя вінаватыя ў гэтых расстрэлах.




*Мемарыял каля Хайсоў*

# ЦЁПЛЫ ЛЕС (Віцебскі раён)

Урочышча Цёплы лес знаходзіцца каля пасёлка Лужасна (у 12 км ад Віцебска ў бок Гарадка). У 1930-я гады ў Цёплым лесе, недалёка ад Лужаснянскага тэхнікума, былі арганізаваны летнія ваенна-палявыя лагеры. На вялікай тэрыторыі, абнесенай калючым дротам, знаходзіліся склады з ваеннай маёмасцю і харчаваннем.




*Мемарыяльны крыж у Цёплым лесе*

У пасёлку былі пабудаваныя дачы для камандзірскага складу, і ў адной з іх, ацалелай пасля вайны, потым размяшчалася пачатковая школа. У будынку Пакроўскай царквы быў арганізаваны рэстаран для вайскоўцаў. У 1941 годзе склады былі разрабаваныя, а пабудовы расцягнулі на свае патрэбы мясцовыя жыхары. Цяпер на месцы лагераў засталіся зараснікі манчжурскага арэху, кусты бэзу і паўразбураны калодзеж.

Ва ўспамінах старажылаў Цёплы лес часта фігуруе і як месца «сталінскіх» расстрэлаў у 1937-38 гг. Такія аповеды неаднаразова даводзілася чуць Яну Дзяржаўцаву, актывісту КХП БНФ, які збірае звесткі пра сталінскія рэпрэсіі на Віцебшчыне:

– Мяне сюды прыводзіў Сакалоў Генадзь Аляксандравіч, які жыў тут побач, калі быў дзіцем. Ён расказаў, што ў дзяцінстве яны з двума хлопцамі пайшлі ў змярканні ў Цёплы лес. І ўбачылі, што пад'язджае машына, спыняецца, не выключыўшы фар. З кузава выганяюць людзей – хлопцы бачылі іх фігуры і потым чулі стрэлы. Прычым тут такое было шмат разоў, а не аднойчы.




*Ян Дзяржаўцаў*

На тым месцы, якое паказаў сведка, — пад гарой, у балоцістай лагчынцы, недалёка ад шашы, які вядзе з Віцебска ў Лужасна – у 2015г. быў усталяваны мемарыяльны крыж. На шыльдзе напісана: «У памяць бязвінных ахвяр сталінскага тэрору, расстраляных ва ўрочышчы Цёплы лес катамі НКВД у 1931-40 гадах па загадзе савецкай улады».

## Мікалай Вакушэнка: Гэты страшны Цёплы лес

З Мікалаем Іванавічам Вакушэнкам бацька пачаў гаварыць пра расстрэлы ўпершыню, калі той ужо крыху падрос. А нарадзіўся Мікалай Іванавіч ў 1944 годзе. Бацька распавядаў пра тое, што ў Цёплы лес каля Лужасна вазілі людзей і па начах растрэльвалі, кажа Мікалай Іванавіч:

-- Па ўсіх хутарах чулі стрэлы ў лесе. І ўсе людзі, якія жылі вакол Цёплага лесу, ведалі, што там адбываецца.



*Мікалай Вакушэнка*

Бацька Мікалая Іванавіча, які нарадзіўся ў Судніках, прыблізна ў трох кіламетрах ад Цёплага лесу, і таксама жыў на хутары, такім чынам стаў сведкам гэтых падзей. Мікалай Іванавіч адмыслова адзначае, што ў той лес сяляне баяліся хадзіць, лічылі, што адтуль можна было і не вярнуцца.
Мясцовыя жыхары паказалі месца, дзе адбываліся расстрэлы. Аматары гісторыі і краязнаўства устанавілі там мемарыяльны крыж — пад гарой, у балоцістай лагчынцы, недалёка ад шашы, якая вядзе з Віцебска на Гарадок.

## Барыс Леганькоў: Калі ў якасці месца расстрэлу быў пазначаны Віцебск, гэта мог быць Цёплы лес

Барыс Якаўлевіч Леганькоў, 1929 года нараджэння, працаваў у саўгасе "Вароны" з 1962 года. На працягу сямі гадоў ён быў там галоўным інжынерам. За гэты час яму давялося шмат чуць ад мясцовых жыхароў пра падзеі Дру-

гой Сусветнай вайны ў гэтых мясцінах, пра партызанскі рух. Адначасова закранаалася і тэма рэпрэсій перад вайной.

-- Напрыклад, Ходзькін Леанід з вёскі Паляі распавядаў, што паміж вёскамі Паляі і Вароны ў яры адбываліся расстрэлы рэпрэсаваных. Было гэта ў 1937 і 1938 гадах. Пазьней там быў усталяваны памятны знак, -- прыгадвае Барыс Якаўлевіч.



*Барыс Леганькоў*

З 1969 года Барыс Якаўлевіч працаваў у саўгасе "Віцебскі" у Заронаўскім сельсавеце Віцебскага раёна. Упершыню на новым месцы працы яму давялося пачуць пра расстрэлы ад Пашкевіча Антона, жыхара вёскі Міхалі, які працаваў трактарыстам-камбайнёрам у саўгасе "Віцебскі". Ягоны бацька Пашкевіч Васіль да Вялікай Айчыннай вайны працаваў лесніком. Дзе менавіта адбываліся расстрэлы, у Цёплым лесе ды ў іншых месцах, ён ведаў, і бачыў там сляды гэтых дзеянняў. Пра гэта Барысу Леганькову стала вядома ўжо ад ягонага сына, бо сам ён загінуў падчас савецка-фінскай вайны.

Барыс Якаўлевіч мяркуе, што імёны ахвяр расстрэлаў у Цёплым лесе ды іншых месцах непадалёк ад Віцебску могуць быць знойдзеныя ў кнігах "Памяць", прысвечаных розным раёнам Віцебскай вобласці. На ягоную думку,

можна лічыць, што калі ў якасці месца знішчэння рэпрэсаванага грамадзяніна пазначаны Віцебск, гэта мог быць і Цёплы лес. Варты асаблівай ўвагі, лічыць Барыс Якаўлевіч, выпадак, апісаны ў кнізе “Памяць” Гарадоцкага раёна:

-- Сваячка аднаго з расстраляных даведалася дакладнае месца расстрэлу – што гэта быў Цёплы лес. Якім чынам даведалася, у кнізе “Памяць” не сказана. Але разам з іншымі сваякамі яны паехалі на кані ў Цёплы лес шукаць свежыя ямы. Там яны знайшлі магілу, раскапалі яе і выцягнулі цела свайго сваяка. Чамусьці ён быў распрануты, толькі ў ніжняй бялізне. Яны прывезлі яго ў Гарадоцкі раён, апранулі і пахавалі ў той вёсцы, дзе ён быў старшынём калгаса.

## Галіна Магучая : У “Цёплы лес” людзі з навакольных вёсак хадзіць баяліся

У 1968 – 1970 гг. жыхарка Віцебска Галіна Магучая вучылася ў тэхнікуме ў пасёлку Лужасна. Студэнтам гэтага тэхнікума не рэкамендавалася хадзіць у лес паблізу Лужасна, які называўся Цёплым.



*Галіна Магучая*

Выкладчыкі тэхнікума казалі студэнтам, што той лес “нядобры”, што там знаходзяцца пахаванні -- ці то “ворагаў народа ”, ці то “бандытаў”. Было вядома, што туды і людзі з навакольных вёсак не хадзілі, баяліся. Але Галіна Магучая кажа, што аднойчы насмелілася гэта зрабіць:

-- А неяк увесну я дужа кветак захацела, і ўсё ж пайшла ў той лес. Там жа краявід прыгожы, і ёсць высокая-высокая гара. І я вырашыла пайсці на тую гару, а потым спусцілася ніжэй, да дарогі на Рубу, дзе былі блакітныя кветкі. Там я ўбачыла ямкі. Яны былі падобныя на акопы, якіх я бачыла шмат. І таму я ўвагі на іх не звярнула.

Ва ўспамінах старажылаў Цёплы лес часта фігуруе як месца «сталінскіх» расстрэлаў . Прыкладам, пра гэта згадвае Сакалоў Генадзь Аляксандравіч, які жыў тут побач, калі быў дзіцем. Ён расказаў, што ў дзяцінстве яны з двума хлопцамі пайшлі на змярканні ў ”Цёплы лес”. І ўбачылі, што пад’язджае машына, спыняецца, не выключыўшы фар. З кузава выганяюць людзей – хлопцы бачылі іх фігуры і потым чулі стрэлы. Прычым тут такое было шмат разоў, а не аднойчы.

## Генадзь Сакалоў: Дзеці хадзілі глядзець на начныя расстрэлы

Доктар ветэрынарных навук, былы загадчык кафедры зоагігіены Віцебскай ветэрынарнай акадэміі, выдатнік адукацыі, вязень канцлагера «Пяты полк» Генадзь Аляксандравіч Сакалоў быў у даваенныя гады яшчэ малым хлопчыкам. Ён нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Казакі Віцебскага раёна, у 1937 годзе сям’я пераехала ў пасёлак Лужасна. Бацька быў млынаром, маці глядзела за гаспадаркай. Генадзь Аляксандравіч распавядае, што ў Лужасне было вядома пра “сталінскія”расстрэлы ў так званым Цёплым лесе, які месціцца за пасёлкам.

-- Мы прыехалі ў Лужасна ў 1937 годзе. І аднойчы мой старэйшы брат Валянцін позна недзе загуляўся, маці пачала хвалявацца, а калі ён вярнуўся, то пачала дапытвацца, дзе ён быў. І брат распавёў, што ён і старэйшыя дзеці хадзілі ў лес, каб глядзець на расстрэлы. Яны расказвалі, што апоўначы ў лес прыязджаюць машыны з людзьмі, якіх на іхных вачах і расстрэльвалі, -- распавёў Генадзь Сакалоў.



*Генадзь Сакалоў*

Аднойчы старэйшыя дзеці ўзялі з сабою і зусім малога тады Генадзя Аляксандравіча. Дзеці стаялі на гары, а ўнізе, каля дарогі ў лагчыне яны бачылі святло ад машын, і як у тым святле мітусіліся людзі. Генадзь Сакалоў дагэтуль памятае тое месца:

-- Вось яна -- высокая гара, абрыў, і там унізе ля самай балаціны расстрэльвалі. Гара якраз насупраць чыгуначнай станцыі Лужасна, можа, крыху правей. Мяне старэйшыя з сабой браць не хацелі, і я, канечне, ледзьве за імі паспяваў, пад гару. Прыйшлі на месца, сядзелі, чакалі. Гадзінніка ў нас не было, але прыблізна дзесьці ў поўнач прыехала машына. Выйшлі некалькі чалавек і некаторы час хадзілі там, унізе. Затым: пах-пах. І другі раз: пах-пах. І нехта крычаў. Як мне падалося, "Да здравствует Сталін!" Як пачалі страляць, мы кінуліся бегчы.

Генадзь Сакалоў кажа, што сведкамі расстрэлаў былі не толькі дзеці, але і дарослыя. Людзі гаварылі, што зняволеных прывозілі з Віцебска. Пагалоска пра начныя жахі доўга хадзіла па наваколлі. Расстрэльвалі ахвяраў на мяжы невялікага балотца і сушы, каб забітых пасля таго можна было хутчэй закапаць. І месца тое людзі называлі «праклятым».




*Ушанаванне памяці загінулых у Цёплым лесе*

# НАШЧАДКІ ПАМЯТАЮЦЬ

Месцы масавых расстрэлаў у Беларусі ўсё яшчэ з’яўляюцца таямніцай. Архіўныя звесткі пра ахвяраў “сталінскіх” рэпрэсій таксама цяжка даступныя для сваякоў, чые бацькі, дзяды і прадзеды былі расстраляныя і высланыя ў 1930-50-я гады. Нашчадкам даводзіцца па драбніцах збіраць інфармацыю пра тых, хто бязвінна загінуў у ссылцы або ад кулі ў невядомым лесе.




*Ушанаванне памяці загінулых*

## Тамара Ільіна: Дзядулю ўжо 2 гады як расстралялі, а бабулі далі даведку “памёр ад сэрца”

Франц Антонавіч Лаппо нарадзіўся ў 1899 годзе ў вёсцы Бубалева на Лёзненшчыне. Лёс адмерыў яму ўсяго 38 гадоў жыцця, якое абарвалася ў Краснаярскім краі паводле пастановы Тройкі УНКУС. Пра свайго дзядулю, якога не давялося ўбачыць, распавяла жыхарка Віцебска Тамара Ільіна:

– Ведаю ад бабулі, і даведка пра гэта ёсць, што да арышту ў 1932 годзе дзядуля працаваў дзясятнікам на торфараспрацоўках у Лёзненскім райпрамгасе.

Версія бабулі такая: людзі з мясцовага калгаса ішлі да яго працаваць на торфараспрацоўкі, і той калгас не выканаў нейкі план. Старшыня калгаса, дарэчы, сябар дзядулі, паскардзіўся, што план не выканалі, бо не хапала людзей – маўляў, сышлі да Франца Лаппо на тарфянікі. Дзядулю абвінавацілі за арганизаваную контррэвалюцыйную дзейнасць і саслалі на 8 гадоў у Нарыльскі лагер. Бабуля засталася з 3-гадовым сынам на руках, маім татам. І ўсё жыццё вінавацiла таго старшыню калгаса за тое, што "здаў" дзядулю. Яна і прозвішча называла, ды я не запомніла. Але я заўсёды спрабавала яго бараніць, тлумачыла, што ён не спецыяльна гэта зрабіў, што спрабаваў уратаваць сваё жыццё, бо за кепскую працу калгаса пыталіся з яго…



*Тамара Ільіна*

Тэрмін пакарання мусіў скончыцца, аднак Франц Антонавіч дахаты не вярнуўся, працягвае Тамара Ільіна:

– З даведак пра рэабілітацыю я зразумела, што дзядуля перажыў два судзілішчы. Адно ў 1932 г., а другое – у 1937 г. У сямейным архіве ў нас захоўваецца даведка, нібыта Лаппо Франц Антонавіч сканаў "ад упадку сардэчнай дзейнасці". Але ў базах звестак пра рэпрэсаваных ёсць інфармацыя, што 27 верасня 1937 г. дзядулю асудзілі за шкодніцтва і антысавецкую дзейнасць да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу. Яго расстралялі 8 кастрычніка

1937 г., праз 11 дзён пасля прысуду...

Праўду пра трагічны лёс Франца Антонавіча Лаппо сям'я даведалася толькі ў 1960-я, і тое не ўсю. Даведку пра рэабілітацыю па першым абвінавачванні 5 чэрвеня 1960 г. выдаў суд Віцебскай вобласці: "пастанова адменена і справа спынена за недаказанасцю злачынства". Жонка рэпрэсаванага, Ганна Іосіфаўна Лаппо, якая нічога не ведала пра другі прысуд , пачала шукаць свайго мужа. Бо чалавек ужо больш як 20 год таму мусіў вярнуцца дамоў з высылкі, а яго ўсё няма... Бабулі паведамілі, што яе муж памёр у 1939 г., і нават даслалі даведку аб смерці, кажа Тамара Ільіна:

– Бабуля звярталася ў КДБ, каб даведацца, што здарылася. Адказ прыйшоў з упраўлення ўнутраных справаў – што дзядуля памёр 13 студзеня 1939г. у месцах зняволення, і што пасведчанне ад смерці можна атрымаць у ЗАГСе. Атрымалі. У гэтым пасведчанні напісана, што смерць наступіла ад "упадку сардэчнай дзейнасці". Чалавек быў ужо два гады як расстраляны, а бабуля да самай смерці думала, што ён памёр ад сэрца, калі дабіраўся дадому са ссылкі! У 1961г. прыйшлі дзве даведкі з Краснаярскага краю: краявы суд і пракуратура паведамлялі, што другая справа супраць Лаппо Ф.А. таксама скасавана, і ён рэабілітаваны. Але для бабулі гэта ўжо не мела вялікага значэння: яна ва ўсім вінавaціла сябра, які спісаў на дзядулю кепскую працу калгаса. Яна меркавала, што праз яго ён трапіў у высылку, і праз яго памёр, страціўшы здароўе ў лагеры... Пры жыцці бабуля так і не даведалася, што яе муж быў асуджаны ў Краснаярскім краі другі раз, і што яго расстралялі.

Паводле інфармацыі з базаў звестак пра рэпрэсаваных, Франц Антонавіч Лаппо быў расстраляны 8 октября 1937 году ў пасёлку Дудзінка. Месца яго пахавання невядомае. Рэабілітаваны 4 февраля 1961 г.

## Аляксандр Фраленка: Бацька быў старшынём калгаса, а загінуў у лагеры

Аляксандр Андрэевіч Фраленка ведаў свайго бацьку толькі з матчыных расказаў. Калі яму было чатыры месяцы, бацьку забралі ў турму, а потым асудзілі за антысавецкую агітацыю і саслалі на Далёкі Усход. Аляксандр Фраленка прыгадвае матчыны аповеды:

– Мой бацька, Андрэй Клімавіч Фраленка, быў унтэр-афіцэр царскай арміі, служыў у Рызе. Пасля рэвалюцыі ён прыехаў у Беларусь. Яму было 33 гады, ён хацеў завесці сям'ю, займець зямлю, наладзіць сваё жыццё. У Віцебску тады жыў ягоны брат Ягор, ён уладкаваў бацьку плытагонам у мястэчку Сураж. Але бацькавы планы на жыццё перайначыла Савецкая ўлада: як быламу вайскоўцу, яму даверылі ствараць калгас з жыхароў бліжэйшых хутароў. Ад кастрычніка 1930г. па сакавік 1931г. ён быў старшынём сельсавета ў Янавічах, да закрыцця царквы ў Янавічах быў чальцом рэвізійнай камісіі царкоўнай рады. Потым працаваў у палітаддзеле МТС, быў прызначаны старшынём калгасаў “Шлях бедняка” і “Промтруд”. Але паводле заяваў двух аднавяскоўцаў быў абвінавачаны ў выказваннях антысавецкага характару і вядзенні рэлігійнай прапаганды.



*Аляксандр Фраленка*

Андрэя Клімавіча Фраленку асудзілі да 10 гадоў зняволення ў працоўным выпраўленчым лагеры. Пакаранне ён адбываў на Далёкім Усходзе – у 2-м аддзяленні Бурлага на станцыі Ізвестковая.

Ягоны сын Аляксандр Фраленка памятае, як пасля вайны, у 1949 годзе, нечакана атрымаў вестку ад бацькі:

– Аднойчы маёй маці, Фраленка Настассі Яфімаўне, перадалі, што яе шукае нейкі чалавек. Аказалася, гэта наш зямляк з-пад Суража, ён вярнуўся

з Далёкага Усходу, і расказаў, што сустракаўся з бацькам у лагеры. Бацька быў там брыгадзірам цесляроў, і яны працавалі ў суседніх брыгадах. Але вестка пра бацьку прыйшла са спазненнем. Ён не вярнуўся дадому, і пазней мы высветлілі ў КДБ, што мой бацька, Андрэй Клімавіч Фраленка, загінуў у 1940-м годзе ў лагеры, захварэўшы на запаленне лёгкіх.

Бацьку Аляксандра Фраленкі рэабілітавалі 14 чэрвеня 1958 г. Сына і маці паклікалі ў КДБ і паказалі заявы, паводле якіх бацька быў арыштаваны і асуджаны. Іх напісалі нехта Смунёў і Смольскі, і супрацоўнік КДБ не хацеў даваць гэтыя дакумент сыну рэпрэсаванага, баючыся, як ён сказаў "эксцэсаў з боку маладога чалавека". Але ў 1950-я гады гэтых людзей ужо не было ў жывых, яны загінулі падчас вайны, кажа Аляксандр Фраленка.
На памяць пра бацьку яму застаўся толькі фотаздымак, зроблены падчас злёту перадавікоў калгаснага руху: статны мужчына з вусамі рашуча глядзіць у аб'ектыў, яшчэ не ведаючы, які несправядліва горкі лёс яго чакае...

## Валянціна Дробышава: Бацьку расстралялі за літоўскае прозвішча

У Валянціны Дробышавай, жыхаркі пасёлка Лужасна, не засталося ніводнага бацькавага фотаздымка. Усе здымкі знішчыла вайна. Адзінае, што яна памятала пра бацьку — гэта дзень, калі яго забіралі ў турму як "замежнага шпіёна":

– Гэта было 7 снежня 1937 года, каля поўначы. Да нас пастукаліся, а потым зайшлі двое незнаёмых людзей . Сказалі, што будуць шукаць у нас зброю. З мэблі ў нас амаль нічога не было, толькі ложкі, стол, шафа... Дык яны адразу палезлі ў шафу. Нічога не знайшоўшы, загадалі тату: "Збірайцеся, пойдзем. Паперы падпісаць трэба". Маці кажа: "Якія паперы пасярод ночы ? Вы яго забіраеце, значыць, ён больш сюды ня вернецца!" А я памятаю, што бацька нават распісацца ня ўмеў — крыжык ставіў, прачытаць нічога ня мог! Які з яго шпіён?

Пазней маці Валянціны Дробышавай даведалася, што бацьку пасадзілі ў віцебскую турму НКВД. І ягоная віна была толькі ў тым, што ён меў літоўскае прозвішча Шпеліс. А сям'я стала "ворагамі народу".

У тую самую ноч былі арыштаваныя яшчэ некалькі мясцовых жыхароў з

польскімі або літоўскімі прозвішчамі. Усе яны трапілі пад хвалю «змагання з замежнымі шпіёнамі».




*Крыж у памяць пра Антона Шпеліса*

— Сястра была камсамолка — яе выключылі з камсамолу, брат быў піянер — і яго выключылі з піянераў. Маці кудысьці хадзіла, пыталася пра бацьку, насіла ў турму перадачы – сала, споднюю бялізну. Паўгода, са снежня 1937 года, яна хадзіла ў тую турму, у яе бралі перадачы. А потым аказалася, што бацька яшчэ ў студзені быў расстраляны. Мне потым дакументы далі, калі расстралялі, у каторы дзень. Толькі сказалі, што не пакажуць тое месца, дзе ён расстраляны і пахаваны.

Валянціна Дробышава атрымала пасведчанне, у якім прычынай смерці бацькі названы расстрэл. І пасведчанне пра ягоную рэабілітацыю. Аднак заставалася мара, каб зрабіць хаця б сімвалічную бацькаву магілу. Даведаўшыся пра невядомае пахаванне каля вёскі Хайсы, якое мясцовыя жыхары лічаць месцам расстрэлу ахвяр сталінскіх рэпрэсій, жанчына вырашыла: раз падобная смерць напаткала і ейнага бацьку, менавіта ў гэтым месцы варта ўзяць зямлі для сімвалічнага пахавання. Ідэю ўзяліся ажыццявіць сваякі спадарыні Валянціны, якая ўжо ня мела здароўя далёка адыходзіць ад дому. Разам з удзельнікамі ініцыятывы “Хайсы – віцебскія Курапаты” у лес, дзе дагэтуль знаходзяць непахаваныя чалавечыя парэшткі, паехала

пляменніца Ірына з сынам, нявесткай і малым унукам. Яны набралі зямлі з тых мясцін, дзе знайшлі свой апошні спачын дзясяткі, а то і сотні бязвінна забітых, завезлі зямлю на могілкі і высыпалі побач з магілай маці Валянціны Дробышавай.

## Альберт Ляхоўскі: Я бачыў, як у чорны “варанок” забіралі майго дзядзьку

Малая радзіма Альберта Ляхоўскага – Сенненскі раён. Яшчэ ў дзяцінстве ён стаў сведкам сталінскіх рэпрэсій: у яго на вачах арыштоўвалі мужа матчынай роднай сястры. Найперш за латышскае прозвішча Ліцыт, мяркуе Альберт Ляхоўскі:

— Я нарадзіўся ў Сенненскім раёне, і аднойчы мы, малыя, пайшлі да станцыі “Лычкоўскага”, там непадалёк жыла матчына сястра з мужам. Нас чацвёра дзяцей і там чацвёра. І вось ноччу прыязджае машына, чорны “варанок”, забіраць гаспадара. Зайшлі ўтрох, у скураныя курткі апранутыя… Мы ўсе ў крык, кінуліся яго бараніць, а тыя, з машын, пачалі нас збіваць. Білі і нагамі, і чым хацелі. І цётцы Альме дасталося, і нам – усіх збівалі да крыві, і тыя акрываўленыя паехалі, што ў “варанку”. Дзядзьку нашага ніхто больш не бачыў, яго расстралялі “за здраду Радзіме”.

Дзіцячая памяць не захавала імя і імя па бацьку арыштаванага. Паводле “Картатэкі Сталіна”, рэпрэсаваныя былі некалькі чалавек з прозвішчам Ліцыт. Усе яны з вёскі Аляксандрава, што непадалёк ад станцыі “Лычкоўскага”.

Родныя баяліся распытваць пра лёс сваяка, і дагэтуль не ведаюць, дзе ён быў расстраляны. Але пра “расстрэльныя месцы” непадалёк ад Віцебска Альберту Ляхоўскаму давялося пачуць праз шмат гадоў ад ягонай цешчы:

— Мая цешча, Паліна Сушынская, распавядала, як у 30-я гады хадзіла ў грыбы каля вёскі Хайсы. Спярша, казала яна, пачула стрэлы. Вырашыла паглядзець, што там такое. Але нейкія мужчыны яе прагналі, не даўшы падыйсці бліжэй. Сказалі “няма табе чаго тут рабіць”. Але яна паспела ўбачыць, як далей у лесе нейкія людзі закапалі яму і пасадзілі зверху дзве елачкі. Больш яна ў тыя мясціны не хадзіла: раптам пойдзеш, ды больш не вернешся.



*Чэрап з адтулінай ад кулі, знойдзены ў лесе каля Хайсоў*

У 1950-я гады частку лесу каля Хайсоў выкарчавалі і ўзаралі поле. Мясцовыя жыхары прыгадваюць, што той лес быў увесь у ямках-магілах.
А цяпер на полі сеюць кукурузу, не зважаючы на трагічную гісторыю гэтых мясцін. На ўскрайку поля актывісты ініцыятывы “Хайсы -- віцебскія Курапаты” усталявалі помнік і тры крыжы ў памяць пра расстраляных тут ахвяр сталінскіх рэпрэсій.

## Люцыя Яленская: Цяжкі лёс паляка, афіцэра, гаспадара

Люцыя Баляславаўна Яленская нарадзілася ў сакавіку 1922 года ў вёсцы Курылава Рудніцкага сельсавету ў Віцебскім раёне. Яе бацька Баляслаў Пятровіч Яленскі нарадзіўся ў 1872 годзе, ён быў на восем гадоў старэйшы за маці.

Баляслаў Пятровіч быў афіцэрам Белай гвардыі. Калі бацька павяртаўся з вайны, ён набыў восем гектараў зямлі. Люцыя Баляславаўна прыгадвае, што падчас калектывізацыі бацьку дужа настойліва прымушалі ўступаць у калгас:

– З гэтай мэтай яго абкладалі падаткам, і каб сплаціць яго, бацька мусіў сячы лес. Памятаю, што прыязджалі ды адбіралі збожжа.



*Люцыя Яленская*

Абодва бацькі былі палякамі і належалі да дваранства. У сям'і было пяцёра дзяцей, але пасля смерці ў дзіцячым узросце аднаго з іх засталося тры дзяўчынкі і адзін хлопчык. Вучыліся дзеці ў польскай школе. Але Люцыя Баляславаўна прыгадвае, што доступ да навучання ў польскай школе быў абмежаваны, вучняў было вельмі мала. У чацвёртым класе, які паспела скончыць Люцыя Баляславаўна, было толькі чатыры вучні – два хлопчыкі і дзве дзяўчынкі. Пазней польскую школу зліквідавалі, а вучняў перавялі ў беларускую школу, дзе над імі смяяліся, дражнілі "пшэкамі". У 1932 годзе бацьку Люцыі Баляславаўны выклікалі ў сельсавет, успамінае дачка:

— Гэта не было звязана з дваранскім паходжаннем — пра гэта ніхто не ведаў, і нават нам, дзецям, бацькі не казалі. Пра дваранства, ды пра іншае, маці распавяла нам толькі калі тату забралі.

У той дзень Баляслаў Пятровіч з сельсавету не вярнуўся. Наступнай раніцай маці запрагла каня, ды накіравалася ў сельсавет сама.
Там ёй сказалі, што яе мужа ўжо завезлі ў Віцебск, у турму. Маці сабрала для бацькі перадачу, і разам з Люцыяй Баляславаўнай, якой тады было 10

год, яны паехалі ў Віцебск. Турма знаходзілася побач са Смаленскім рынкам. Там ім дазволілі пабачыцца праз вакенца. Для Люцыі Баляславаўны падставілі лавачку, бо яна да вакенца не дацягвалася. Бацька з дачкой раней былі заўсёды разам, Баляслаў Пятровіч браў малую дачку нават на працу ў полі. Ён рабіў для яе адмысловае месца на плузе ці на культыватары, каб сесці, і даваў лейцы ў рукі, і так яны разам працавалі ў полі. А тут проста стаялі адзін насупраць аднаго, і абодва плакалі...

Праз некаторы час маці зноў паехала ў Віцебск, да бацькі ў турму. Але на ранейшым месцы яго не знайшла, бо яго перавялі ў падвал побач з ракой Віцьбай. Туды маці ўжо не пусцілі. Пазней ён апынуўся ў будынку на Успенскай горцы, дзе тады месціўся аддзел НКУС, і цяпер знаходзіцца абласное кіраўніцтва КДБ. Там таксама да яго ўжо не пускалі.

У 1933 годзе Баляслава Пятровіча вызвалілі. Ён вымушаны быў пайсці ў калгас.

Ужо ў наш час Люцыі Баляславаўне ў згаданым вышэй будынку на Успенскай горцы прапаноўвалі пачытаць папку са справай яе бацькі, але яна адмовілася, бо ведала, што будзе плакаць, і нічога не разбярэ. Гэта была справа па выніках другога арышту Баляслава Пятровіча, які адбыўся 31 ліпеня 1938 года. Люцыя Баляславаўна папрасіла, каб ёй распавялі пра лёс яе бацькі, адлюстраваны ў гэтае справе. Ёй сказалі, што яго расстралялі ў лістападзе 1938 года. Месца пахавання Баляслава Пятровіча, казалі ёй, невядомае, і могуць ведаць яго толькі ў адпаведных органах у Менску.

Разам з Баляславам Пятровічам Яленскім з ягонае вёскі забралі ягонага далёкага сваяка Яську Старыковіча. У ягонае сям'і было двое дзяцей. Ён быў камуністам, і дужа шчыраваў падчас раскулачвання сям'і Яленскіх у 1933 годзе. Сям'я Яленскіх была заможнай. У іх была карова і конь, розныя сельскагаспадарчыя машыны, у тым ліку веялка, сеялка ды малацілка. Былі назапашаныя свініна, бараніна, ялавічына ў бочках. Было шмат рэчаў, якія гэты Старыковіч актыўна дапамагаў адбіраць.

Таксама ў 1938 годзе забралі яшчэ аднаго суседа па прозвішчы Буевіч, распавяла Люцыя Баляславаўна:

-- Гэтага Буевіча забралі перад самай вайной, ён пабыў у руках энкавэдоўцаў толькі некалькі дзён. Прыйшоў ён адтуль белы як палатно. Потым распавядаў, што сустрэў у турме бацьку. А шмат пазней распавёў пра катаванні

вязняў. Яго адмыслова папярэджвалі, каб маўчаў, і ён загаварыў пра катаванні толькі нядаўна. У прыватнасці ён казаў, што катаваным заганялі іголкі пад пазногці, ды круцілі чалавека на адмысловым коле, аж пакуль у яго не пачынала ісці з носу кроў...

## Пётр Каваленка: Рэпрэсіі пачаліся ці з не першага дня Савецкай улады...

Бабуля Пятра Фёдаравіча Каваленкі мела дзявочае прозвішча Навуменка і нарадзілася ў Віцебску. Адразу пасля рэвалюцыі яна выйшла замуж у вёску Сенькава каля Рубы. У гэтае вёсцы яна пражыла ўсё сваё жыццё, да 80-ці гадоў.



*Пётр Каваленка*

Паводле яе ўспамінаў, першыя выпадкі рэпрэсій, якія чынілі бальшавікі, ёй давялося пабачыць яшчэ ў 1929 ці 1930 годзе. У Велікодную суботу яна вярталася дахаты пасля начной службы ў царкве. На сваім шляху яна пачула, як моляцца святары. І гэта былі страшныя малітвы, бо яны суправаджаліся крыкамі. Здалёк яна пабачыла выкапаную ў зямлі яму, а побач з ёй святароў, якіх расстрэльвалі.

Сярод іх яна пазнала святара з Успенскага сабора. На жаль, не засталося дакладных звестак пра месца трагедыі.

Пётр Фёдаравіч разважае:

– Яна магла ісці адным з двух магчымых шляхоў, ці праз вёску Батрукі (каля вуліцы Смаленскай, па вуліцы, якая звалася “Бруднай”, пазней “вуліцай Чырвонага партызана”) і далей, ці па цяперашняй вуліцы Гагарына.

На вуліцы Гагарына ў Віцебску цягам некалькіх стагоддзяў была турма. Знаходзіцца яна там і зараз, гэта цяперашняе СІЗА-2.

Яшчэ адна гісторыя, якую распавядае Пётр Фёдаравіч, здарылася са знаёмым іх сям'і, які жыў у мікрараёне Віцебска пад назвай Ціраспаль. Знаёмага звалі Іван Антонавіч Астапенка, нарадзіўся ён прыблізна ў 1917 годзе. У яго быў прыяцель, які працаваў пуцявым абходчыкам на чыгунцы. Недзе за Ціраспалем, у раёне Хайсоў, у яго была будка, у якой ён захоўваў інструменты.

Там быў і пераезд, які згадваецца ва ўспамінах шматлікіх сведкаў. У лесе за пераездам энкавэдысты расстрэльвалі і закопвалі людзей, а каб не вазіць кожны раз інструменты – рыдлёўкі і ламы, пакідалі іх на захаванне ў будцы абходчыка, а абходчыку загадвалі маўчаць пра гэта. Пётр Фёдаравіч удакладняе, што гэта было да 1937 года, можа быць, нават у самым пачатку 30-ых:

– Рэпрэсіі ж пачаліся ледзь ці не з першага дня Савецкай улады, і цягнуліся не адно дзесяцігоддзе.



# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Ва ўкладальнікаў гэтага выдання не было мэты прааналізаваць сталінскі тэрор як палітычную з'яву, яе прычыны і вынікі. Галоўнай задачай мы бачылі захаваць для нашчадкаў дакументальныя сведчанні пра месцы расстрэлаў пад Віцебскам, паказаныя мясцовымі жыхарамі, гісторыі сем'яў, якія пацярпелі ад гістарычнай навалы, і дэталі, што характарызуюць той час, калі "людзей прывозілі на расстрэлы вагонамі", а падчас расстрэлаў чулася "Да здравствует Сталін!"

Мы ўдзячныя кожнаму суразмоўцу, які паведаміў тое, пра што ў савецкія часы баяліся не тое, што гаварыць, а нават і думаць. Дзякуючы аповедам сведкаў, іх сваякам і нашчадкам, на "расстрэльных" месцах з'явіліся пакуль яшчэ не помнікі, але самаробныя мемарыялы. Кожная драбніца інфармацыі пра рэпрэсаваных сваякоў, якую дбайна захоўваюць сем'і родзічаў, можа стаць прыкладам для ўсіх іншых, -- хто хацеў бы даведацца пра мінулае сваёй сям'і і краіны. Падрабязнасці лёсаў ахвяр і катаў пакуль яшчэ знаходзяцца пад грыфам "сакрэтна". Але гэта не назаўсёды, бо людзі перасталі маўчаць і насмеліліся падзяліцца трагічнымі ўспамінамі.

Дзякуй усім, хто спрычыніўся да выдання гэтай кнігі.

